Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 4 снежня 1987 г. № 49 (3407) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## УНУМАРЫ:



ЛЮДЗІ РОДНАГА КРАЮ

Здаўна майструе мілагучныя скрыпкі Мікалай Дзянісавіч Старавойт з калгаса «Прамень Кастрычніка» Мазырскага раёна.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

# ДАСЛЕДУЮЦЦА ЎЗАЕМАСУВЯЗІ

У Сумскім педагагічным інстытуце імя А. С. Макаранкі стала добрай традыцыяй правядзенне навуковых канферэнцый па пытаннях украінска-беларускіх літаратурных і фальклорных сувязей. На чарговай з іх, прысвечанай 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, былі заслуханы даклады прафесара Сумскага педінстытута П. Ахрыменкі «Развіццё ўкраінска-беларускіх літаратурных узаемасувязей пад зоркай Вялікага Кастрычніка», дацэнта Гомельскага універсітэта А. Рубана «Значэнне ўкраінска-беларускіх літаратурных сувязей першых дзесяцігоддзяў Савецкай улады», прафесара Запарожскага універсітэта В. Чабаненкі «Алесь Ганчар і Беларусь», дацэнта Брэсцкага педінстытута Ц. Ліякумовіча «Андрэй Малышка і беларуская паэзія», старшага навуковага супрацоўніка Інстытута грамадскіх навук АН УССР Л. Бондар «Уладзімір Караткевіч пра Лесю Украінку» і іншых.

Пра значэнне культурна-літаратурных сувязей ва ўзбагачэнні ўкраінскай і беларускай моў гаварылася ў дакладах «Беларуска-ўкраінскія моўныя ўзаемасувязі ў сферы лінгвістычнай і літаратуразнаўчай тэрміналогіі і іх роля ў развіцці культурнага яднання братніх народаў» прафесара Гомельскага універсітэта У. Анічэнкі і «Роля ўкраінска-беларускіх культурна-літаратурных узаемаадносін ва ўзбагачэнні ўкраінскай мовы» старшага выкладчыка Сумскага педінстытута М. Назарка.

**В. ПЯТРЫЧЫЦ.**

г. Сумы.

---

гым немалая заслуга яго старшыні.

На сходзе былі вылучаны творы на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа і літаратурнай прэміі імя І. Мележа.

Адбыліся выбары новага бюро секцыі прозы. Старшынёй бюро зноў абраны В. Адамчык.

●

Справаздачна-выбарчы сход секцыі паэзіі адкрыў сакратар праўлення СП БССР В. Зуёнак. Старшыня бюро секцыі Р. Барадулін у сваёй справаздачы прызнаў, што бюро секцыі працавала не на поўную моц і многае з запланаванага ў выніку розных аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын не было рэалізавана.

У. Някляеў адзначыў, што працу бюро можна палепшыць у тым выпадку, калі перайсці да вырашэння больш канкрэтных, практычных пытанняў.

В. Дашкевіч падкрэсліў, што бюро павінна даваць сур'ёзную і прынцыповую ацэнку мерапрыемствам грамадска-палітычнага характару.

В. Вітка гаварыў пра неабходнасць новых форм прапаганды беларускай літаратуры: правядзенне творчых вечароў на радзіме пісьменнікаў, у працоўных і студэнцкіх калектывах.

У абмеркаванні справаздачнага даклада прынялі ўдзел таксама В. Аколава, Т. Бондар, В. Коўтун, Я. Крупенька, У. Паўлаў, Р. Тармола, Л. Філімонава, К. Цвірка.

Былі праведзены выбары новага бюро секцыі паэзіі. Старшынёй бюро абраны У. Някляеў.

**Наш кар.**

---

**З ПОШТЫ «ЛіМА»**

# «А ТО ДА ЧАГО ДАХОДЗІЦЬ...»

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Жыву я ў вёсцы, мне 66 гадоў, маю толькі чатыры класы адукацыі, якія набыла яшчэ за Польшчай. Выхавала чатырох дзяцей, разам з імі навучылася чытаць па-беларуску (школа ў нас у вёсцы — васьмігодка). І я, і дзеці мае вельмі любім чытаць, а вось унукі ўжо не так, бо, лічу, тэлевізар зрабіў сваю благую справу. Звычайна, як прыедуць мае дзеці да мяне ў адведкі, дык заўсёды прывязуць розных кніг, часопісаў, газет. Менавіта так трапіў да мяне і нумар вашай газеты «Літаратура і мастацтва». Ён не толькі мне, а ўсім маім аднавяскоўцам і знаёмым з суседніх вёсак спадабаўся. Асабліва артыкул «Затапленне», дзе вы пішаце пра нашу зямельку, турбуецеся за яе лёс.

І вось гэты нумар як пайшоў гуляць з рук у рукі, дык да мяне *назад і не вярнуўся.* Вырашыла набыць яго, але тут і натыкнулася на праблему, якую, прабачце за шчырасць, ваша міністэрства, самі вы там у Мінску нарадзілі. Чаму міністэрства? Ну дык раскажу.

Было гэта яшчэ вясной. Ну, думаю, як прыедзе ўнучак на канікулы, дык і выпраўлю ў раён, каб *пашукаў* газету ў нашых Міёрах. Але каб не паказацца дзіўнай, свайму ўнучку Змітрачку я наказала, каб *яшчэ і куранят купіў* мне. І што ж? Змітрок мне куранятак прывёз, а газету — не. Кажа, што пра такую газету ў кіёску не чулі і ў продажу яе ніколі не было. Я звярнулася ў бібліятэку (дакладней, дачку папрасіла, бо цяжкавата мне хадзіць), але і там «Літаратуру і мастацтва» не выпісваюць, пацікавілася ў школе — і тут пра яе існаванне не ведаюць, ніхто асабістай падпіскі не мае, у клубе газеты таксама няма.

Сяджу і думаю: а як жа гэта без такой газеты абыходзяцца нашы работнікі культуры, бібліятэкары, выкладчыкі літаратуры і малявання? Застаецца толькі здзіўляцца, як гэта Міністэрству культуры ўдалося так засакрэціць сваё выданне? Я лічу, што гэта вельмі нядобра. Прадумала нават, як паправіць гэты хіб. Трэба ўзяць за ўзор выданні *па сельскай гаспадарцы,* якія мусяць выпісваць кожная кантора, праўленне калгаса, дырэкцыя саўгаса, бібліятэка, клуб, райком, рэдакцыя раённай газеты, школа і г. д.

Ну, а чаму раптам хаваюць ваша выданне? Ці ж дрэннае яно? Выпісалі б «ЛіМ» бібліятэкі, клубы, там, глядзіш, і на ферму ў чырвоны куток пры*неслі б газету.* З'явіліся б і сярод вяскоўцаў ахвотнікі падпісацца на яе. А калі б тыя ж настаўнікі ведалі, колькі там цікавага і каштоўнага для іх, дык, я ўпэўнена, адразу падпісаліся б, і вучням сваім параілі б. А то да чаго ж даходзіць. Сёлета прыязджалі да нас на ўборку ўраджаю студэнты з інстытута культуры і да мяне завіталі — то яблыкамі пачаставацца, то абагрэцца. Дык *і яны не ведалі пра існаванне* вашай газеты, а студэнты, як высветлілася, з усіх куткоў Беларусі вучацца ў тым інстытуце. А вось гэта, пэўна, ужо і нікому гаварыць нельга, а вам скажу: і выкладчыкі ўяўлення не маюць, аб чым у вашай газеце пішуць. Прашу асабліва ім пра гэта не наракаць, яны ж такія інтэлігентныя, што *крыўдзіць не хочацца. А раптам* яны самі здагадаюцца, што ім чытаць вашу газету проста неабходна, каб не трапляць у смешнае становішча? Хоць бы перад калгаснікамі...

Наогул, у нашай мясцовасці (ды і ў суседзяў таксама) людзі маюць вялікую патрэбу чытаць, а ў вёсках жа часам не знойдзеш і іншых газет. Праўда, на нашай пошце можна набыць «Звязду», але купіць яе зможа толькі... адзін чалавек. Ну а калі прыязджаюць да нас шэфы (у дні ўборкі людзей з горада ў нас бывае шмат), дык пакутуюць без газет. Мы ўжо звыкліся з тым, што друкаванае слова на вёсцы днём з агнём не знойдзеш, а гараджанам гэта дзіка... Мы ўжо не патрабуем ад работнікаў культуры карцінных галерэй, лекцый на музычную тэму, хоць не адмовіліся б ад гэтай увагі, тым больш, што ў *вёсках памяшканняў для такіх* мерапрыемстваў хапае. Паверце мне на слова, бо не да твару мне вас падманваць. Але паважаныя таварышы кіраўнікі нават не ўяўляюць, у якое анекдатычнае становішча ставяць лозунг «Культура — вёсцы», бо ў тую вёску пакуль не даносяць нават сваю газету. Праўда, адзіны экземпляр «ЛіМа» ў Міёрах нядаўна з'явіўся (хоць адна ластаўка вясны яшчэ не робіць, але сведчыць усё ж пра вясну)...

Вы самі ведаеце, хто ў вёсцы сёння застаўся: большасць жыхароў, якія закончылі сямігодкі, васьмігодкі на беларускай мове, ды пенсіянеры, такія, як я. А выданні да нас ідуць амаль усе на рускай або як мы гаворым — на гарадской мове. Вось і чытаем мы ад *радка да радка нашу «раёнку»,* а некаторыя выходзяць са становішча, выпісваючы выданні на польскай мове. Але я лічу, што гэта не выйсце. У заключэнне скажу: пакуль усе нашы міністэрствы на поўным сур'ёзе не падумаюць пра вёску, пра духоўнае жыццё яе моладзі (я не кажу пра тое, што нават нам, пенсіянерам, сумна), дык не будуць гаманіць нашы сады і яслі дзіцячымі галасамі...

Пэўна, я зрабіла памылку, што напісала ліст менавіта вам. Вось да мяне прыйшла Магда Фамічоўна Якубоўская, суседка мая, і кажа, маўляў, ці можна пісаць таму, каго крытыкуеш, бо толку не будзе: дэмакратыя — дэмакратыяй, але ж так не бывае, каб самі пра сябе дрэннае пісалі. Але я не стала перапісваць у «Звязду». Пагляджу, што будзе.

**ШУПІЛА**
**Глафіра Дзмітрыеўна,**
**калгасніца.**

в. Паташня
Міёрскага раёна.

---

# А ЧАС—НЕЗВАРОТНЫ

Цімкавіцкі народны тэатр спыніў сваё існаванне. Той самы цімкавіцкі тэатр — старэйшы ў рэспубліцы драматычны калектыў, з багатай творчай гісторыяй, якая бярэ пачатак у 1918 годзе. Пра пастаноўкі гэтага самадзейнага калектыву напісана шмат артыкулаў. Многія з іх друкаваліся і на старонках «ЛіМа». Пра цімкавіцкі тэатр і яго былога кіраўніка — заслужаную настаўніцу БССР Зінаіду Іосіфаўну Раманенка — можна прачытаць у «Гісторыі беларускага тэатра» і «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». На сцэне тэатра выступаў К. Чорны, чытаў свае гумарэскі і фельетоны, паказвала спектаклі вандроўная трупа У. Галубка. Старанна, па крупінках збірала і зберагла надзвычай багаты матэрыял для музея З. Раманенка.

І вось тэатра няма. Атрымалася так, як часам здараецца і ў жыцці чалавека. Працаваў чалавек — усім ён быў патрэбен, а занядужаў, абнямог — і забыліся на яго існаванне, нікому і справы няма да яго здароўя. Дзе тыя адказныя асобы, што некалі прыязджалі ў Цімкавічы?..

Праўда, два гады назад прыслалі былі ў тэатр новага кіраўніка. Ён спраўна атрымліваў грошы, але... Тэатральная зала, як казаў стары цімкавец суседу, дужа прыгожая і маўчыць, як лялька.

Няма і музея. Матэрыялы яго ўсё яшчэ чакаюць сваёй пары ва ўтульнай і ціхай хаце Зінаіды Іосіфаўны. Доўга чакаюць. Прапанавала Зінаіда Іосіфаўна размясціць музей на месцы вестыбюля ў старой трохпакаёвай школе. Але замест пакоя для музея там адгарадзілі клас, куды па частках уцягнулі і сабралі грузавы аўтамабіль. Безумоўна, у міжшкольным вытворчым камбінаце будучым вадзіцелям трэба грунтоўна авалодваць тэхнікай, але на першым паверсе школы імя К. Чорнага, ля бюста пісьменніка, рабіць вучэбны клас па аўтаспраecon — недарэчна, а то і проста амаральна. Добра, што хоць нядаўна чорнаўскі бюст усё ж перанеслі ў новую прыбудову.

Прабіць сцяну абыякавасці ў раёне, пераканаць скептыкаў у неабходнасці стварэння музея ў сямідзесяціпяцігадовай З. Раманенка не хапае сіл. Многія ўвогуле скрозь пальцы глядзяць на музейную справу ў Цімкавічах. Даўно не адчыняліся шырока дзверы народнага музея К. Чорнага. Яго наведваюць, як часам паведамляе райгазета, розныя дэлегацыі, удзельнікі семінараў, нарад. А школьнікі, мясцовыя жыхары ўвогуле забыліся, калі былі тут, чулі словы экскурсавода. Заязджаюць людзі ў Цімкавічы з іншых рэспублік, пытаюцца пра распарадак работы музея, а цімкаўцы ў адказ паціскаюць *плячамі. Як трапіць* у цагляны дамок сярод каштанаў, цікавяцца ўсе, хто бывае на радзіме класіка беларускай літаратуры. Музей 17-га Чырванасцяжнага Цімкавіцкага пагранічнага атрада таксама рэдка хто наведвае. Няўжо нельга хоць раз у тыдзень ці месяц расчыняць дзверы музеяў для аднавяскоўцаў, жыхароў раёна, рэспублікі? Разумею засмучэнне Зінаіды Іосіфаўны: усё ж рабілася ў імя людзей і дзеля іх.

Дык мо і новы музей ствараць не варта? Усё роўна будзе бяздзейнічаць. Баюся, калі так разважаць, дык можа быць позна, бо час зваротнага адліку не мае...

**А. БЕЛЬСКІ,**
**аспірант БДУ імя У. І. Леніна,**
**былы выпускнік**
**Цімкавіцкай школы.**

---

# Пра каляндар, паштоўку і Новы год

**У свой час газета «Літаратура і мастацтва» друкавала ліст мінскага ўрача С. Чарняўскай, у якім гаварылася аб адсутнасці адрыўных насценных беларускіх календароў. Прайшоў амаль год. І вось зноў у рэдакцыйнай пошце з'явіліся лісты, якія канстатуюць, што праблема так і не зрушылася з месца.**

**Чытач У. Голубеў з Мінска, у прыватнасці, піша: «Вельмі хацелася б, каб тое, аб чым гаварылася на старонках «ЛіМа», не засталося толькі словам, а мела нейкія канкрэтныя вынікі. Хачу спыніцца вось на якім пытанні — на пытанні аб нашых беларускіх календарах. Тых самых, адрыўных, якіх няма.**

**Неяк я быў у Тбілісі і Ерэване, і мне на вочы трапілі адрыўныя календары на грузінскай і армянскай мовах. Гэта мяне вельмі зацікавіла, бо, акрамя інфармацыі (падзеі, даты) саюзнага значэння, там можна прачытаць пра падзеі і даты мясцовыя, звесткі пра выдатных людзей, пісьменнікаў, дзеячаў культуры і мастацтва, вершы, байкі, маленькія даведні пра гістарычныя падзеі і г. д. Ведаю, што адрыўныя календары выходзяць і ў Вільнюсе — на літоўскай мове.**

**Чаму ж мы не можам зрабіць такі свой, беларускі каляндар? Гэта ж маленькая энцыклапедыя — на цэлы год!»**

**З лістом Голубева мы звярнуліся да загадчыка рэдакцыі календароў і рэкламы выдавецтва «Полымя» Л. Міхасёнка. Ён нам паведаміў, якія календары падрыхтавала выдавецтва на новы, 1988 год. Усе яны прымеркаваны да пэўных падзей і дат, багата ілюстраваны. У прыватнасці, як зазначыў Л. Міхасёнак, жыхары і госці рэспублікі змогуць набыць табелі-календары «У дружбе з навукай», «Мінск. 3 ліпеня 1944 года» — каляндар, прысвечаны 45-годдзю вызвалення БССР ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў; «Мір — супрацоўніцтва—дружба» — аб рознабаковых сувязях БССР з зарубежнымі краінамі.**

**Выдавецтва «Полымя» падрыхтавала і настольныя перакідныя календары-хроніку, у якіх пададзены знамянальныя даты з жыцця краіны і народа, расказана пра вядомых дзеячаў навукі, культуры і мастацтва.**

**Гістарычнай даце — 70-годдзю БССР і КПБ — прысвечаны і насценныя фотакалендары «У брацкім саюзе, у дружнай сям'і» і «Помнікі працоўнай славы» (каляндар адлюстроўвае працоўныя подзвігі беларускага народа, увасобленыя ў помніках).**

**У рэдакцыі календароў і рэкламы паведамілі і пра іншыя выданні, якія пабачаць свет у 1988 годзе. Гэта і плакаты-календары, і кішэнныя каляндарыкі. Усе названыя выданні — на беларускай мове.**

**Гэта, вядома, добра. Але на пытанне, ці з'явяцца нарэшце адрыўныя насценныя календары, якіх так чакаюць чытачы «ЛіМа», наш карэспандэнт адказу так і не атрымаў. Хоць, сказаў Л. Міхасёнак, ён таксама лічыць, што *такі беларускі* насценны адрыўны каляндар павінен быць.**

**Такім чынам, пытанне застаецца адкрытым і яго мы адрасуем Дзяржкамвыду БССР. Як, прынамсі, і пытанне-прапанову, якую даслаў у рэдакцыю «ЛіМа» наш даўні чытач і сталы аўтар, кандыдат гістарычных навук А. Трусаў. Ён прапануе выдаць некальні серый паштовак з подпісамі на беларускай, рускай і агульна прынятай замежнай (англійскай) мове з тым разлікам, каб іх можна было пасылаць у адкрытым выглядзе па пошце. На яго думку, серыі паштовак маглі б мець умоўныя назвы: «Адроджаная спадчына» (помнікі архітэктуры, адноўленыя беларускімі рэстаўратарамі), «Вядомыя беларускія пісьменнікі», «Беларуская кафля» і інш.**

**Як засведчыла рэдакцыйная пошта, нашы чытачы пачалі рыхтавацца да Новага года. Але, як, высветлілася, і тут — не без праблем. Заслужаны работнік культуры А. Белакоз з Гродзеншчыны піша: «У кіёсках ужо многа навагодніх паштовак, але ніводнай беларускай. Яшчэ ў г. Гродна часам можна знайсці віншавальную навагоднюю паштоўку на беларускай мове, а вось у раённых цэнтрах, у вясковых аддзяленнях сувязі беларускамоўную паштоўку, як кажуць, днём з агнём не знойдзеш».**

**А ці толькі на Гродзеншчыне такая праблема?**

**Студэнты Беларускага політэхнічнага інстытута М. Бойка, А. Нарушэвіч, Б. Залуцкі і чытач з Мінска М. Пырх паведамілі нам, што на Мінскім галоўпаштамце, дзе заўсёды найвялікшы выбар паштовак (у *продажы* ёсць 47 відаў навагодніх паштовак), няма ніводнай... беларускай. Аўтары задаюць пытанне: калі ж, нарэшце, можна будзе павіншаваць такой паштоўкай сваіх сяброў?**

**І праўда, калі?**

***АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ «ЛіМа».***

Эдзі АГНЯЦВЕТ



# На берагах Нявы

## Белая ноч

Не спяць сады,
дарогі і палацы,
І музыка святла гучыць усё смялей.
І можна ашалець ад наступу акацый,
Ад бэзу белага ў цяністасці алей.
Белая ноч!

Масты на трапяткой гавораць мове
І рукі белыя над белаю зямлёй.
Такія ночы толькі для любові —
Не для блакады страшнай, божа мой!

Шуміць праспект вясёлы, Неўскі вечны.
А між вітрын, на левай старане —
Застаўся надпіс, як праклён вайне:
— Тут артабстрэл найболей
небяспечны!
(О белая ноч!)

Ён з чорных дзён дайшоў да гэтай ночы,
Як боль і крык.
Ён помніць цемру зла!
Ён—з ярасці сімфоніі прарочай,
Што ЛЕНІНГРАДЦАМ створана была.

І мне пачуўся ў невыноснай скрусе
Галодны плач дзяцей над снежнаю
імглой

...Шуміць праспект!
І свеціць дабрынёй
Усёй Зямлі
і нашай Белай Русі
Белая ноч.

## З Петраградскай стараны

Бывае:
спадарожнік выпадковы
Расказвае пра лёс уласны вам...
Імчыцца электрычка ў Камарова —
Насустрач лесу, хмаркам і вятрам.

— І колькі ёсць бярозак самых
розных!—
Прамовіў, нібы сам сабе, сусед.
На твары — часу рэзкія барозны,
Над скронямі — агню ліловы след.

— Да сына еду. Запрашаў на дачу.
А я, прызнацца, не прыхільнік дач.
Мне б толькі човен,
вудачку на ўдачу
І чаек перасмех і пераплач!

Яшчэ пад сэрцам — ад вайны асколак,
Калі ў кранштацкіх паміраў ільдах.
Ды не памёр!—
Чуць-чуць смяшлівы голас,
А сінь вачэй — зусім не па гадах.

І раптам, як аб самым запаветным.
—Я родам з Петраградскай стараны.
Ох, помню ноч!
Мы беглі, пад сакрэтам
Услед за бацькам,
хлопчыкі-сыны.

І там, каля Фінляндскага вакзала:
— Прыехаў ЛЕНІН! —
Плошча святкавала.
І верыў я
у сем сваіх гадоў—
Ён на мяне глядзіць і на братоў!

Свяціўся твар адкрыты, шчыры, чысты!
Хаця далёка недзе я стаяў,
А думаў, што са мною асабіста,
Нібы з дарослым,
Ленін размаўляў.

Жыву дагэтуль той, дзіцячай верай..
І зычу добрым людзям на зямлі,
Каб самыя найлепшыя намеры
Не перайшлі ў чыноўныя паперы,—
Зярнятамі жывымі прараслі!

## Крокі Янкі Купалы

Летні сад. Прыціхлі статуі
Старажытных мастакоў.
І зямное, і крылатае
Хараство глядзіць з вякоў.

Параўнаць з якімі лекамі
Сілу гэтых цудаў-дзіў?
Пэўна, тут Купала некалі
Смуткаваў, маўчаў, хадзіў.

«Ноч» убачыў таямнічую,
Можа, згадваў ноч крынічную?
«Купалінка, купалінка,
Цёмная ночка!
Цёмная ночка,
А дзе ж твая дочка?...»

Дарагая, Пецярбургская,
Непаўторная пара:
Поруч—моладзь беларуская,
Першы подых «Гусляра».

Сходкі палкія сяброўскія!
Як праменні праз туман,
Гоні сніліся бацькоўскія,
Нараджаўся тут «Курган».

І было да болю мілае:
Медны Коннік над Нявой,
Хлопцы шчырыя з Пуцілава,
Рух гісторыі жывой.

«Медны Коннік»!
Стала прагаю,
Стала марай з тых гадоў:
Перадаць па-свойму магію,
Сутнасць пушкінскіх радкоў.

...Летні сад.
Здаецца, статуі
Размаўляюць між сабой...
Нечакана вее мятаю
І ўздыхае зверабой.

## Аўрора

Не для парадаў і забаў
Усходзіў Крэйсер-Чалавек.
З дваццатым векам пачынаў
Ён свой вялікі, доўгі век.

Не ведаў ён пра лёс і код
Яму наканаваны,
Што роўна праз семнаццаць год
Пачне агнём гармат-грымот
Жаданы Дзень, чаканы.

Ты ж наша першая зара,
Ты—сейбіт новых зорак.
Малыя знаюць з буквара—
«А»—перш за ўсё—«Аўрора».

І ты ахоўваеш жыццём
Кастрычніцкае неба.
І ёсць Нява—твой горды дом,
Любоў твая і глеба.

## Маладыя ленінградцы

А блізка ад Казанскага сабора,
На вуліцы малююць мастакі.
Усплёск размоў.
Нервовы гул матораў...
Адзін пачаў з дзявочае рукі:

З прадаўгаватых пальцаў летуценных,
Народжаных для шчасця аднаго.
Вось-вось яны прыўзнімуцца над пенай,
Купаючы маленькага свайго.

Мастак маўчыць.
Яршысты, трошкі хмуры,
Працягвае з рукі да сэрца ніць.
У вочы выпадковае «натуры»
Нібыта і глядзіць, і не глядзіць.

І тут, штрышком няўдалым засмучоны,
Сказаў аб стратах на пачатку дня.
І ўбачыў позірк будучай Мадонны,
Дзе ўсмешка, сум,
здзіўленне, чысціня.

І ўжо не трэба аніякіх рацый,
Бо іскра іскру яркую знайшла!

Мае вы, маладыя ленінградцы,
Натхнення вам, адвагі і святла!

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# Дні літаратуры на Гродзеншчыне

На Гродзеншчыне прайшлі Дні літаратуры пад дэвізам «Дружба народаў — дружба літаратур». У іх прынялі ўдзел Аляксей Карпюк, Вольга Іпатава, Аляксандр Капусцін, Віктар Шымук, Пятро Сушко, Генадзь Дзмітрыеў, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Бутрамееў, а таксама празаік Віль Рудзін з Кемерава і паэт Гінтарас Патацкас з Каўнаса.

Дні пачаліся на Навагрудчыне—на радзіме вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча. Літаратараў вітала сакратар Навагрудскага райкома партыі Г. Ц. Жарый. Удзельнікі Дзён выступілі ў калгасах «Камунар» і імя Кутузава, у Навагрудскіх сельскагаспадарчым і гандлёва-эканамічным тэхнікумах, у Любчанскім сельскім Доме культуры.

Дырэктар Дома-музея А. Міцкевіча Л. Усенка пазнаёміла ўдзельнікаў Дзён літаратуры з новымі экспанатамі, расказала пра тое, як ушаноўваецца памяць вялікага песняра.

Затым пісьменнікі накіраваліся ў Лідскі раён. Там, раздзяліўшыся на групы, выступілі ў Доме культуры шклозавода «Нёман», перад вучнямі дзвюх бярозаўскіх школ, рабочымі Лідскага завода электравырабаў, навучэнцамі мясцовага педагагічнага вучылішча.

Цёплыя літаратурныя сустрэчы адбыліся таксама з чытачамі ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, у музычна-педагагічным вучылішчы.

Закончыліся Дні вялікім літаратурным вечарам у Палацы культуры тэкстыльшчыкаў г. Гродна.

В. ПЯТРЭНКА.

ЧЫТАЧ ПРАЦЯГВАЕ РАЗМОВУ

# Дзе ты, прыгажуня Піна?

Па даўняй завядзёнцы купіў у кіёску чарговы нумар «Літаратуры і мастацтва», разгарнуў і ўбачыў артыкул «Неспакойная плынь Прыпяці», які мяне ўсхваляваў літаральна з першых абзацаў.

Соль на застарэлы, балючы паран душы — інакш і не магу назваць мае ўражанні ад гэтай публікацыі.

Вёсачка мая, Хамічава, што ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці, стаіць лічы што на самым беразе прыгажуні Піны. Ды вось якая бяда — пра рэчку гэтую трэба гаварыць ужо ў мінулым часе. Няма, лічы, цяпер рэчкі Піны. З яе празрыстай імклівай вадою на перамелах, дзе вясёлымі чародкамі плёскаліся сотні срабрыстых плотак, жыравалі зубастыя шчупакі, а ў берагавых норах чакалі прыцемак, каб выйсці на паляванне, вусатыя велізарныя-ракі, драпежныя чорныя ментузы. За гадзіну мы, вясковыя хлапчукі, звычайным плеценым кошыкам маглі «натаптаць» рыбы на вячэру для ўсёй сям'і. Тоўстыя вербы хілілі свае доўгія зялёныя галіны-косы, паласкалі ў прахалодзе віроў босыя ногі-карані. На вярсту-дзве па пойме разбягалася шматквецце заліўных лугоў.

Прыгажосць, адным словам. Амаль не кранула яе і першая меліярацыя. Канавы правялі да рэчышча, і навакольная раўнавага практычна не парушылася.

Страшнае пачалося пасля, калі меліяратары вырашылі спраміць частку рэчышча. Здаецца, зусім невялічкую частку. Кіламетр, не болей. Выкапалі стралу-канаву і... рэчка пачала паміраць. Вада, якая раней прамывала рэчышча, давала жыццё Піне, пайшла наўспрам, да Дняпра-Буга.

— Ды мо выйгралі ад гэтага гаспадарнікі? — спытае хто.

Нічога не выйгралі. Землі мясцовага калгаса не павялічыліся ні на гектар.

Упартай і жывучай аказалася рэчка. Ніяк не жадала здавацца, гінуць. На нейкі час ёй гэта ўдавалася. Разрасталіся па берагах вербалозы. Паміж Хамічавым і Перарубам пасяліліся нават бабры.

«Жыць нашай Піне» — спадзяваліся палешукі.

Ды не!

Вось як гэта здарылася. Будавалі асфальтавую дарогу Іванава — Любяшоў. Спачатку вырашылі тры масты ўзвесці цераз Дняпроўска-Бугскі канал, Піну і магістральную меліярацыйную канаву. У адным комплексе, з агульным насыпам. Гэта потым нехта з высокага начальства даў загад будаваць толькі два масты. Піну ж проста перасыпалі.

«Драматызуе аўтар, магчыма, з прыкрасцю скажуць кіраўнікі праекта абвалавання і меліярацыі поймы Прыпяці. — Пры чым тут Піна?».

Піна — прыток Прыпяці, нават буйны прыток быў некалі. Немалая частка воднай сістэмы нашага Палесся.

Ці, можа, Піна адзіная, з якой мы, людзі, так наздзекаваліся? Можа, усё, што здарылася з ёй — выключэнне з правіла? Каб жа так... Колькі легенд складзена, кніг напісана пра палескую рачулку Лань. Тую самую «раку лясную». Што ад яе засталося? Канава. Праўда, грамадскасці ўдалося адстаяць ад націску меліяратараў мясціны гняздоўя вялікай калоніі чапляў у вусці ракі. Але калі, як піша аўтар артыкула, справа дойдзе да практычнага абвалавання поймы Прыпяці, заказнік гэты загіне. Можа загінуць вядомая цяпер ва ўсёй Еўропе калонія рэдкіх птушак.

А куды падзелася рэчка з мілагучнай назвай Бобрык? Старажылы памятаюць яе своеасаблівую прыгажосць. Цяпер тут таксама канава. Сіратлівая шыльдачка ля шашы нагадвае, што некалі тут струменілася чыстая, жывая вада Палесся.

Працягваць?

Смерць у выглядзе недальнабачнай меліярацыі з усіх бакоў падкрадаецца да Ясельды, да Убарці, іншых нашых рэк і рэчак.

Зараз шмат пішуць і гавораць аб зберажэнні прыроды. Але, нягледзячы на гэта, час ад часу ўзнікаюць праекты, якія, па сутнасці, з'яўляюцца здзекам з прыроды. Я лічу такім праектам і праект абвалавання Прыпяці. Нядаўна на канферэнцыі Брэсцкай абласной арганізацыі таварыства аховы прыроды гаварылі аб ім з вялікай трывогаю. Спадзяваўся, прыслухаюцца да гэтых галасоў адпаведныя органы. Куды там! Што для іх думка грамадскай арганізацыі?

А тут артыкул у «ЛіМе». На мой погляд, размову аб Прыпяці трэба працягваць. Смела і рашуча. Я ж ведаю, што не жадаюць друкаваць аналагічныя матэрыялы ў іншых выданнях. Дакладна ведаю, як «марынавалі» такія матэрыялы ў некаторых рэдакцыях нашых беларускіх часопісаў. Да гэтай пары іх у друку я так і не ўбачыў.

В. Пашкевіч яшчэ раз адкрыў вочы грамадскасці на праблему Прыпяці. З артыкула відаць— не раўнадушны ён чалавек.

Цалкам падтрымліваю пазіцыю аўтара артыкула. І хацеў бы дадаць: пакуль не позна, трэба спыніць ажыццяўленне праекта. Як гэта адбылося з праектам будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС, які таксама пагражаў экалагічнай раўнавазе поўначы рэспублікі. Савет Міністраў СССР спыніў гэта будаўніцтва.

Можна, як прапануе Пашкевіч, прыняць альтэрнатыўныя варыянты, каб замест суцэльнага абвалавання выканаць лакальную супрацьпаводкавую ахову населеных пунктаў і сельскагаспадарчых угоддзяў.

Хочацца яшчэ раз нагадаць думку мудрага чалавека, абаронцы прыроды, Героя Сацыялістычнай Працы, вядомага рускага пісьменніка Валянціна Распуціна, якую ён выказаў сёлета ў «Правде»: нашчадкі не даруюць нам Байкала... І Беларускага Палесся. І гаварыў ён гэта аб цяперашнім стане рэгіёна. А што стане з тым жа Палессем пасля знішчэння (так-так, іншага слова і не падбяру) яго сэрца—Прыпяці?

Прачытаў напісанае і падумаў: а ці не зашмат эмоцый? Але ж нельга пра гэта гаварыць спакойна. Нельга! І так мы доўга маўчалі. І дамаўчаліся...

Ну, вядома ж, я не супраць меліярацыі, якая і перакладаецца з лацінскай, як паляпшэнне зямлі. Я супраць таго, каб яна ператваралася ў руках абыякавых людзей у прыладу здзеку з прыроды.

Васіль ЖУШМА,
член Саюза журналістаў СССР.
г. Іванава.

# ПАХОДНЯ АБУДЖАНАЙ ПАМЯЦІ

## Францішак СКАРЫНА і новая беларуская літаратура

Аляксей КАЎКО,
кандыдат гістарычных навук.




ДОБРА ВЯДОМА, пакуль пераважна на ўзроўні агульных канстатацый, аб непераходным значэнні духоўнай спадчыны Скарыны. Аднак першае і галоўнае пытанне — гэта перадусім пытанне жыццеўстойлівасці на радзіме першадрукара-асветніка яго высокіх гуманістычных ідэй: нарадалюбства, асветніцтва, адданасці Радзіме, замілавання родным словам, справядлівасці, дабрыні, хараства. Спасціжэнне скарынаўскай спадчыны ў гэтым сэнсе садзейнічала б, на нашу думку, і больш глыбокаму разуменню жыццяздольнасці беларускага народа, наперакор пакручастым і некалі вельмі драматычным паваротам ягонай гісторыі. І другі бок праблемы: характар пераемнасці паміж старажытнай і новай літаратурамі ва ўмовах нацыянальна-вызваленчага, «адраджэнцкага» руху ў дакастрычніцкі час.

**Дасюль праблема літаратурнай пераемнасці адносна Скарыны спецыяльна не распрацоўвалася і, наколькі вядома, як такая, не ставілася. Лічыцца, што фігура першадрукара беларускіх літаратараў, апрача М. Багдановіча, мала каго цікавіла. Заглыбленне ў праблему дазваляе значна пашырыць яе скарыназнаўчы кантэкст. Да асобы і творчасці Скарыны ў XIX ст. звярталіся В. Цытовіч, У. Сыракомля, А. Кіркор, А. Рыпінскі, А. Ельскі, хоць гэта былі пераважна спарадычныя, разрозненыя згадкі. На пачатку XX ст. у нашаніўскую пару можна ўжо гаварыць аб больш-менш сістэматычным звароце новай літаратуры да свайго вялікага папярэдніка. Непасрэдна са Скарынай суадносіцца, так ці інакш, творчасць М. Багдановіча, С. Палуяна, Р. Зямкевіча, Л. Гмырака, З. Бядулі, М. Гарэцкага, А. Навіны, Л. Родзевіча і іншых. Нельга не ўлічваць і апасродкаваную, сімвалічна-вобразную «прысутнасць» Францішка-палачаніна ў творах В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Каруся Каганца, Янкі Купалы,— там, дзе ўслаўляюцца старакніжныя набыткі, багатыя грамадска-літаратурныя традыцыі беларускага слова, беларускага патрыятызму.**

**Станоўчую ролю адыграла скарыназнаўчая навука, асабліва манаграфічная праца П. В. Уладзімерава. Варта згадаць пра першыя беларуска-скарыназнаўчыя здабыткі, прадстаўленыя працамі Я. Карскага, М. Доўнар-Запольскага, У. Ігнатоўскага, дзе праявілася імкненне асэнсаваць феномен Скарыны як з'яву беларускай гісторыі і культуры і з гэтага пункту гледжання вызначыць яго ролю ў творчым развіцці ўсяго ўсходняга славянства.**

Згадаем, да прыкладу, Аляксандра Ельскага, аўтара першага грунтоўнага агляду «Беларуская літаратура і бібліяграфія (1892), надрукаванага ў польскай ілюстраванай энцыклапедыі. Трынаццаць уборыстых старонак энцыклапедычнага тэксту прысвячаецца літаратурнай гісторыі народа, аб існаванні, дакладней, аб «адсутнасці» якога не стамляўся пладзіць небыліцы буржуазны друк.

«Белоруссия, название части России... Название Белоруссии есть географический термин и не имеет особого этнографического значения, как ни особой народности, ни даже особого племени белорусского не существовало» (Настольный энциклопедический словарь. Т. І. М., 1890, стар. 774). Не адставалі ад маскоўскіх «энцыклапедыстаў» і некаторыя папулярызатары «энцыклапедычных» ведаў у Варшаве: «Люд гэты мала свядомы, не мае ні літаратуры ў сціслым значэнні гэтага слова, ні інтэлігенцыі, ні гісторыі, ні ўсведамлення свае нацыянальнай адметнасці» (Encyklopedia popularna ilustrowana. T. 1, Warszawa, 1909, s. 200).

Падобныя, амаль стэрэатыпныя выразы ў дакастрычніцкіх афіцыйных выданнях былі далёка не выключэннем. А тут беларускі, хоць і спаланізаваны шляхціц з Замосця даказвае штосьці зусім процілеглае. Дае, пачаўшы з твораў Скарыны, агледзіны далёка не беднай творчай спадчыны беларусаў: друкі Мамонічаў, Буднага, Цяпінскага, Мялеція Сматрыцкага, Стэфана Зізанія, П. Бярынды, Л. Карповіча, Ф. Еўлашоўскага, летапісы, хронікі... На заканчэнне згаданы беларускія пісьменнікі новага часу: В. Дунін-Марцінкевіч, Янка Лучына, Ф. Багушэвіч: «вельмі здольны беларускі вершапісец». Ад Скарыны— да Багушэвіча; перакінуўшы «гістарычны» мост паміж абодвума Францішкамі, Ельскі па сутнасці паставіў пытанне аб несупыннасці шматвяковай гісторыі беларускай літаратуры, яе заканамерным характары. Разуменне гістарычнай логікі развіцця народа, мабыць, і дазволіла буржуазнаму лібералу, якім прынята лічыць Ельскага, выказаць у адрас беларусаў прароцтва проста-такі рэвалюцыйнае: «беларускі народ разаўе свой дух у натуральным напрамку... Беларусь дачакаецца яшчэ свайго Шаўчэнкі».

Пэўная духоўная блізкасць да Францішка Скарыны заўважаецца ў творах Дуніна-Марцінкевіча, маючы на ўвазе шчырае чалавекалюбства, «нявробленую народнасць» (У. Конан) твораў аўтара «Пінскай шляхты», «Вечарніц». Невыпадкова хіба што і Скарынава паняцце «люд» у новай літаратуры абнаўляецца і замацоўваецца шмат у чым дзякуючы Марцінкевічу: «беларускі люд», «просты люд». Не могуць не ўражваць і патрыятычныя разважанні пісьменніка: «Зямля, на каторай мы радзілісь, каторую ўпраўляем свaёй працай, на каторай пахаронены косьці бацькоў, дзядоў дый праатцоў нашых; паветрыя, каторым мы аддыхаем, то завецца айчызна». Праўдзіва і трапна заўважыў Г. Кісялёў у кнізе «Героі і музы»: «Пасля Скарыны так з беларускім народам ніхто не размаўляў». Наогул уся творчасць Марцінкевіча прасякнута надзіва высокім замілаваннем да роднай Беларусі ці Літвы (бо і пад такім этнанімам выступае родны край у паасобных творах пісьменніка), да роднай прыроды, нацыянальнай культуры.

Вінцук Дунін-Марцінкевіч бліскуча давёў, на якую мастацкую і этычную вышыню здольны ўзняцца паэт, адораны «вялікаю ласкаю», высокім, Скарынавай пробы пачуццём адданасці роднаму краю. З поўным правам можна і трэба да мацнейшых рысаў пісьменніка з Люцынкі аднесці адну з ярчэйшых «скарынаўскіх» рыс, менавіта глыбокі грамадзянскі патрыятызм. З тым удакладненнем, што Марцінкевіч, як і новая літаратура наогул, не наследаваў Скарыне, але ішоў, адштурхоўваўся ад Скарыны, узбагачаючы новым зместам, новымі мастацкімі формамі маральна-эстэтычныя вартасці слыннага беларускага гуманіста.

**Яшчэ больш прыкметнае духоўнае пабрацімства са Скарынай у Францішка Багушэвіча. Так, нацыянальная мова, па Багушэвічу, — не проста творчая здольнасць, сродак людской камунікацыі. Яна — варунак і праява маральнай паўнацэннасці, «апратка душы» чалавечай, перадумова самабытнасці, гістарычнай неўміручасці народа. У гэтым паэта пераконваў вопыт шматвяковага нялёгкага змагання беларусаў за сваю нацыянальную «выжывальнасць». Пераконвалі помнікі старадаўняга пісьменства, патрыятычнымі каштоўнасцямі якога аўтар «Дудкі беларускай» дапоўніў і падмацаваў літаратурную амуніцыю новага часу, узбагаціў і падняў вышэй скрыжалі беларускага адраджэнцкага руху: «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі». Хіба ж не новае, адпаведна часу і абставінам прачытанне і творчы працяг скарынаўскага запавету?: «ижэ мя милостивый бог с того языка на свет пустил».**

**Дэмакратычная, народная зместам і духам творчасць Багушэвіча відавочна перагукаецца з асветніцкім дэмакратызмам Скарыны, з традыцыяй высакароднага падзвіжніцтва дзеля простага працоўнага люду, на карысць агульнаграмадскай справы, «дабра паспалітага». Але асветніцтва Багушэвіча, зроджанае з якасна іншых гістарычных абставін, вызначаецца выразнай сацыяльнай завостранасцю, падначаленай перш за ўсё інтарэсам эксплуатуемага беларускага сялянства. Эканамічнае і культурнае разняволенне працоўнага чалавека, хлеб цялесны і хлеб духоўны ў разуменні паэта — справы адзінай, арганічнай вагі. Выказанае Багушэвічам пытанне «А дзе ж ксёнжкі для нас, мужыкоў?» (верш «Не цурайся») таксама ўзбагачала думку ранняга, ад Скарыны пачынаючы, беларускага асветніцтва, абноўленую некалькі раней рэвалюцыйна-асветніцкай дзейнасцю К. Каліноўскага, Ф. Савіча, бацькі і дачкі Марцінкевічаў, В. Савіча-Заблоцкага і іншых.**

Гістарычны матыў выразна, на свой лад, прагучаў у творчасці К. Каганца, густа замешанай на нацыянальным мінулым і выказаным найчасцей у легендарна-адцягненай форме, хоць і набліжанай да рэальных падзей. «Гэй, хлопцы, брацця мае, а сыны зямлі Беларускай...! Кіньце ўвакол вокам, сабярэце харашэнька думкі і скажэце, ці павінна так быць, як цяпер ёсць? Ці справядліва гэта— усяго, што сваё, чурацца: і мовы сваёй, і звычаю свайго, і апраткі сваёй? А ведаеце тое, што мова наша калісь слаўнай была, і быў час, калі наша мова працвітала пры дварэ каралёў... Колькі то вучоных людзей, колькі то слаўных казакаў, ваявод і гетманаў наша зямліца выгадавала?»

«Аглядванне» на мінулае ў Каганца мае не толькі пазнавальны, але яшчэ больш агітацыйна-мабілізацыйны сэнс. «Лапцюжнаму» беларусу скрозь чаўплі аб яго спракавечнай адсталасці, забітасці, гістарычнай няздольнасці на самастойнае, без апекуноў, развіццё. І раптам зычнае, смелае слова падтрымкі: хто сказаў, што аднымі лапцямі ды торбай адметны беларус? Ёсць у яго, як у кожнага народа, свая слава, свае моцныя глыбокія апоры. Калі ж зацяжная непагадзь гісторыі заімгліла яму вочы, прыгнула плечы — гэта яшчэ не азначае, што народ не здольны выпраміцца, ясным паглядам пазірнуць на свет.

ЛІТАРАТУРА абуджанай памяці і надзеі — такім беларускае слова ўступала ў новае, XX стагоддзе. Яно яшчэ не ведала дакладна свайго шматвяковага жыццяпісу, сваёй радавітай генеалогіі. Уздымаць і далей здзіраванелыя аблогі забыцця, адшукваць, вяртаць у грамадскі спажытак забытыя ці раскрадзеныя скарбы духоўныя, адкрываць імёны слынных продкаў, фарміраваць тым самым з «тутэйшага» насельніцтва Паўночна-заходняй ускраіны Расіі народ Беларусі, свядомы свайго мінулага, сваёй будучыні — вось якая вялізная, цяжкая праца чакала наперадзе маладую літаратуру. Але да новых выпрабаванняў яна, літаратура, маральна ўжо была падрыхтавана, бо ведала ці не самае галоўнае: чыіх яна бацькоў, дзе яе Айчына, хто яе народ.

Было б прымітыўнай сацыялагічнай нацяжкай шукаць прамой залежнасці паміж творамі Скарыны і пачынальнікаў новай літаратуры. Тым не менш гістарычная пераемнасць паміж абедзвюма эпохамі ў айчынным пісьменстве — з'ява аб'ектыўная, хоць не заўсёды заўважальная. Невыпадкова, мабыць, ідэолагі і ўдзельнікі беларускага нацыянальна-вызваленчага, у тым ліку літаратурнага руху выступілі на рубяжы XIX—XX стст. пад дэвізам адраджэння. Тым самым падкрэслівалася гістарычная повязь і неабарачальнасць развіцця нацыянальнай культуры.

**Праўда, паняццю «адраджэнне» часам надавалася, асабліва з боку буржуазна-ліберальных дзеячаў, перабольшанае самадастатковае значэнне. Не абышлося без даніны сацыяльнай ідэалізацыі, канцэпцыі «адзінай плыні» пры разглядзе мінулага, што замаруджвала ідэйнае даспяванне, наогул аслабляла рэвалюцыйныя магчымасці вызваленчых сіл. Але супярэчлівасці ў поглядах на спадчыну не перакрэслівалі наяўнасці самае спадчыны, яе рэальнага, вядома, не аднaзначнага па выніках уздзеяння на грамадскае жыццё. (Гл.: Славянские культуры в эпоху формирования и развития славянских наций 18—19 вв. М., 1978, с. 292.)**

**Іншая справа, што вельмі аслабленая, месцамі перарваная сувязь з мінулым не адразу была надточана, узмоцнена. Не адразу новая літаратура назапасіла дастаткова творчых сіл, інтэлектуальнага вопыту для ўдалага спалучэння традыцый і наватарства, «цяжару» мінулага і адказнасці перад сучасным і будучым. Але, не перабольшваючы, скажам, што новае прыгожае пісьменства сваім станаўленнем, творчым сталеннем абавязана не ў меншай ступені ўласным літаратурна-гістарычным вытокам, як і фальклорнаму багаццю, падтрымцы братніх літаратур, хоць увага даследчыкаў звычайна зварочваецца толькі на два апошнія фактары. Вядома, старабеларускі літаратурны абшар не адразу ўдалося асвоіць і ацаніць адпаведна велічы стоеных у ім скарбаў. Ды і праблема спадчыны не магла быць вырашанай за адзін, нават вельмі працяглы перыяд. Паколькі праблема спадчыны, як спосабу крытычнага наследавання традыцый, не вычэрпваецца пэўнымі гісторыка-храналагічнымі рамкамі. Праблема гэтая знаходзіцца ў ліку сталых, якасных уласцівасцей літаратуры, уплываючы на яе самаразвіццё і самаўдасканальванне, на яе гарманічнасць, ідэйна-маральную і эстэтычную цэласнасць і, зразумела, на яе нацыянальную адметнасць.**

У працэсе вяртання да вытокаў, папулярызацыі асобы, ідэй Францішка Скарыны асабліва плённы ўдзел прыпаў на долю «Нашай Нівы». У адным з нумароў яе за 1909 г. друкуецца праца ўкраінскага культурнага дзеяча Т. Дарашэнкі ў перакладзе Янкі Журбы «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне». Упершыню на старонках газеты дадзена характарыстыка беларускіх старадрукаў — твораў Скарыны, Цяпінскага, Лаўрэнція Зізанія і іншых. Неўзабаве ў газеце выступае нехта Вінцук Цытовіч і прыкладамі з багатай кніжнай традыцыі аспрэчвае шавіністычныя закіды беларускаму культурнаму руху, нібы штучнаму, пазбаўленаму гістарычна-літаратурных падстаў. Адначасна аўтар асуджае рэнегацтва беларускіх маёмасных колаў, іх здраду нацыянальнай самабытнасці, падкрэслівае творчую ролю працоўнага люду, галоўнага рупліўцы на ніве айчынных культурных скарбаў. «Але не толькі мужык перахаваў беларускую мову,— піша Цытовіч, — перахавалі яе яшчэ і старыя кнігі, якія вялікай працай і коштам друкавалі нашы памяці годныя продкі». Вуснамі Цытовіча «Наша Ніва» па сутнасці ўпершыню вылучае праблему спадчыны як арганічную задачу літаратурнага, наогул вызваленчага руху: «Гэта спадчына, якая засталася ад дзядоў і прашчураў нашых, і мы яе павінны любіць і шанаваць, не зважаючы на звягу праціўнікаў нашых» («Наша Ніва», 1909, № 39).

У 1910 г. «Наша Ніва» друкуе з нумара ў нумар «Кароткую гісторыю Беларусі», выдадзеную ў тым жа годзе ў друкарні М. Кухты асобнай кнігай. Францішку Скарыне ў публікацыі адведзена месца параўнаўча мала — адна няпоўная старонка: сціплыя звесткі аб першадруках Палачаніна, аб прадаўжальніках ягонай справы Мамонічах, друкарах з Нясвіжа, Любчы, Заблудава, Супраслая. Інфармацыя на той час ужо даволі вядомая. Новае было хіба тое, што Скарына паказаны беларусам, мова яго перакладаў — беларускаю, а пералічаныя друкарні — старабеларускімі, нават без папраўкі на пераважна царкоўнаславянскі характар іхняе прадукцыі. У кнізе рэпрадуцыраваны вядомы запіс са Статута Літоўскага аб абавязках пісара земскага трымацца на пісьме «рускага», а не якога іншага «языка». Беларускі акцэнт

(Заканчэнне на стар. 14—15).




Час ветравею. Вершы і паэмы. Укладанне і пераклад з беларускай П. Кошаля. Мінск, «Юнацтва», 1987.

**Даўно палюбілася юным чытачам серыя «Паэтычная бібліятэка», якую рэгулярна выпускае выдавецтва «Юнацтва». Як правіла, у ёй выходзяць кнігі выбраных твораў найбольш вядомых паэтаў. Практыкуецца і выпуск калектыўных зборнікаў, у тым ліку і ў перакладзе на рускую мову. «Час ветравею» — адзін з апошніх у «Паэтычнай бібліятэцы». Ён складзены Пятром Кошалем, які пераклаў творы адзінаццаці паэтаў.**

**Вершы пра неўміручасць ленінскага генія, рэвалюцыю і партыю, гады першых пяцігодак, напісаныя М. Чаротам, У. Дубоўкам, У. Жылкам, А. Александровічам, А. Вольным, Я. Пушчай, А. Дударом, П. Трусам, У. Хадыкам, Т. Кляшторным, А. Моркаўкай — свайго роду паэтычны летапіс неспакойнага, бурлівага часу.**

**Адкрываецца зборнік паэмай М. Чарота «Босыя на вогнішчы», творам, які даўно стаў хрэстаматыйным. А хіба не з'яўляецца свайго роду «візітнай карткай» часу паэма П. Труса «Дзесяты падмурак»?! Хіба нельга сказаць, што паэма А. Александровіча «Дваццаць», нягледзячы на пэўную паслабленасць псіхалагічных момантаў, успрымаецца шчырым лірычным гімнам пакалення дваццатых?!**

**І іншыя творы таксама напісаны так, што ў лірычным героі ўгадваюцца думкі саміх аўтараў, пра якіх з пэўнасцю можна сказаць: іх выбраў сам час і яны сталі песнярамі яго. Дарэчы, у прадмове Ніла Гілевіча «З кагорты першых» даецца сціслая, але дакладная характарыстыка кожнаму з прадстаўленых у кнізе паэтаў. У той жа час Н. Гілевіч гаворыць аб адметнасці паэзіі 20-х — пачатку 30-х гадоў: «Сувязь маладой беларускай паэзіі з рэвалюцыйнай рэчаіснасцю стымулявала інтэнсіўнае развіццё такіх яе вызначальных якасцей, як выразная ідэйная мэтанакіраванасць, сацыяльны аптымізм, баявы жыццесцвярджальны пафас, рамантычная прыўзнятая танальнасць гучання. Разам з тым яна імкнецца пафіласофску асэнсаваць свой незвычайны, складаны час, зазірнуць у глыбіню душы сучасніка, убачыць і адлюстраваць своеасаблівасць эпохі ў бачных рэалістычных штрыхах і вобразах».**




Каля роднай хаты. П'есы. Укладанне Н. Загорскай, А. Селязнёвай. Мінск, РНМЦ НТ і КАР, 1987.

**Значную работу па фарміраванні рэпертуару самадзейных калектываў рэспублікі праводзяць рэпертуарна-рэдакцыйная калегія Упраўлення культурна-асветных устаноў Міністэрства культуры БССР і Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і культурна-асветнай работы. Пачынаючы з 1982 года імі выдадзена больш за 30 рэпертуарных зборнікаў.**

**«Каля роднай хаты» — адзін з чарговых. У яго ўвайшлі аднаактовыя п'есы беларускіх пісьменнікаў і журналістаў — «Зямля не даруе» Л. Левановіча, «Каля роднай хаты» М. Бразоўскага, «Апошні рубеж» А. Чарнова, «Плывуны» Л. Гаўрылкіна, «Крутадух» Д. Слаўковіча.**



# «МАЗОЛІСТЫ ВОПЫТ БЫЛОГА...»

*Павел Шруб. Лабараторыя. Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.*

ПАМІЖ усходам і захадам, паміж будучым і былым, паміж бурай і штылем засяроджана існаванне лірычнага героя Паўла Шруба. Гэта адначасна і малады, і сталы чалавек. Малады — бо не здольны хадзіць «па вяроўцы разважлівай раўнавагі», бо «дзе можна аб'ехаць» — ідзе на таран. Але куды больш заўважаеш у яго характары прыкметы сталасці. «Паэт Павел Шруб, — піша ва ўступным слове рэдактар яго першай кнігі Рыгор Барадулін, — ведае жыццё і на смак, і на колер, і на радасць, і на бяду...» Сапраўды, толькі чалавек бывалы, абцяжараны веданнем жыцця, чалавек, які «вырас з казак», здольны назваць вопыт былога «мазолістым». Раз за разам вяртаючыся «ў пройдзеныя гады», паэт з асаблівай абвостранай увагай прыглядаецца да маладых нязграбных буслянят, якія вучацца лятаць, і да старога вераб'я, што прызвычаіўся карміцца ля бочкі з півам. У свае трыццаць з нечым ён ведае, як умее адшліфоўваць мора (жыццё?) вострыя глыбы, як небяспечна ісці «па міннаму полю любві», ён ужо смуткуе па «простых таямніцах». Чаго-чаго, а летуценнасці, наіву ў героя Шруба няма ані. Ёсць прамы, цвярозы, мужны погляд на свет — у гэтым перш за ўсё і заключаецца адметнасць зборніка «Лабараторыя», пра які я пішу.

Накідаўшы асноўныя рысы ўнутранага партрэта, час высветліць паходжанне.

**Паміж вёскай і горадам стану,**
**паміж вёскай і горадам —**
**направа асфальт беззаганны,**
**налева сцяжына чорная.**

Гэтай чорнай сцяжынай большасць з нас, паэтаў, прыйшлі ў горад. Той-сёй, тым не менш, упарта не жадае лічыцца з гэтай досыць важнай акалічнасцю, зноў і зноў вяртаючыся душой і памяццю да родных ваколіц і матчыных вышыванак. Іншыя сумясцілі ў сабе, прымірылі два светы, паяднаў два светапогляды — вясковы, адвечны і гарадскі, сучасны. Расце і новае пакаленне, якое і на асфальце пачувае сябе няблага, натуральна ва ўсякім разе... Да якіх жа належыць Павел Шруб?

Яго зборнік «Лабараторыя», як і «Сінтэз» Галіны Булыкі, запоўнены гарадскімі рэаліямі. Але калі для паэткі горад — родны, свой, абжыты, то Павел Шруб — даўно ўжо гараджанін, фізік па адукацыі — бачыць у ім найперш сілу чужую, амаль варожую прыроднаму чалавечаму пачатку. Вось адкуль гэтыя «паміж» і «напаўдарозе» (вёскай і горадам). Вось адкуль драматызм, напружанасць, супярэчлівасць, раздвоенасць існавання яго лірычнага героя, які, жывучы «за шклом, за тытанам, за поліўрэтанам», траціць падчас лепшыя чалавечыя якасці і пакутуе ад гэтага.

Сярод «непрыступных», велічных гарадскіх фасадаў яму не па сабе. Куды лепш адчувае ён сябе ў звычайных, непрэзентабельных дварах, дзе «будучыя нявесты» гуляюць у класы, дзе мужчыны «забіваюць казла», дзе гукаюць сваіх сыноў матулі з балконаў...

**Ні ў сабранасці пругкай**
**зары,**
**ні ў расслабленасці**
**надвячоркаў —**
**не бачыў ні разу я грым**
**на тварах падворкаў.**

Шматпавярховыя палацы параўноўвае паэт з акселератамі ў стандартных джынсах. Параўнанне гаворыць само за сябе. Стандартызацыяй, нівеліроўкай асобы пагражае горад кожнаму са сваіх дзяцей — родных і прыёмных. Супраць гэтага і выступае паэт.

**Рашыце, калі ласка, задачу.**
**Дадзена:**
**два розныя гарады**
**з аднолькавымі дамамі,**
**з кватэрамі адзінай**
**планіроўкі,**
**з мэбляй,**
**што як дзве кроплі вады.**
**Дадзена:**
**два розныя індывіды**
**ў джынсах фірмы «Лэвіс»,**
**у кожнага па «Жыгулю»,**
**яны чытаюць «Літаратурку»**
**і кожны новы бестселер,**
**глядзяць адзін баявік.**
**Пытанне.**
**Як, на ваш погляд,**
**будуць іх думкі адрозніваццa,**
**скажам,**
**праз дзесяць гадоў?**

Яшчэ адна «болевая» кропка гарадскога жыцця — адзінота чалавека ў натоўпе, у людскім мностве. «Кожны дзень мы даём нырца ў вір калідораў і вуліц», — піша Павел Шруб. Гараджане здаюцца яму караблямі, якія плывуць побач, не ведаючы адзін аднаго і не зближаючыся. Знойдзены вобраз, аднак, разбураецца ў фінале верша, дзе паэт нечакана збіўся на «хэпі энд»: «І ўсё ж на плыву падтрымаем плыўца, калі яго немач прытуліць».

Для таго, каб захаваць жывую душу, каб застацца сабой, чалавеку патрэбен аазіс — каханне, сябры, дом. Аднак мітусня і тлум — адвечныя спадарожнікі чалавечага існавання — ва ўмовах урбанізацыі дасягнулі свайго апагея. «Часу няма калі жыць», калі кахаць — тым болей. Запоўненасць жыцця справамі і клопатамі, аказваецца, не ратуе ад холаду і самоты. У дзён, піша паэт, «зусім касмічны разгон і касмічная пустата». Які выдатны вобраз — дакладны, пазначаны сучаснасцю мыслення і ўспрымання! (Параўнайце з радкамі Юрыя Кузняцова: «Чем пустоту живую после смерти заполните? Ничтожеством своим?»)

Нават у каханні не знаходзіць герой прытулку.

**Майго кахання ранішняя**
**зорка**
**Так радасна палае і так**
**горка...**

Гэтыя радкі, бадай, — самае ідылічнае і мілагучнае, што ёсць у Шруба. (Верш, дарэчы, называецца «Таполя», што не вельмі адпавядае зместу.)

«Яна і горад» — вось характэрная назва аднаго з вершаў. «Горад мільённы, які ж ты бязлюдны!..» — знаёмая нам нота журбы (калі не адчаю). «Дзяўчыну з зялёнымі косамі» сустрэць ужо немагчыма. А сустрэтая — ці «вобраз далёкі, жаданы», ці «Мая палавіна», якая з парога сварыцца, ушчувае, ставіць у прыклад суседа. Гэта варыянт яшчэ не з горшых — гумаркам асветлены. Бывае і па-іншаму («Ян»): цяжкая работа, беспрасветнасць, «ліпкая замець» зім, немагчымасць разгледзець у стомленым твары жонкі былыя, мілыя калісь рысы... І ўзаемны падман, які канчаецца крахам сям'і (ці толькі сям'і?).

У Шруба «адзінокая» і «дзелавая» — сінонімы («Дзелавая жанчына»). Узмоцненая дзелавітасць — гэта марная спроба запоўніць «касмічную пустату» існавання. Паэт скупымі, дакладнымі штрыхамі піша партрэт сучасніцы, ён графік, а не жывапісец.

**У нядзелю — цырульня,**
**у аўторак — Дом моды,**
**тры гадзіны суботы.**

**Торт з духоўкі на свята,**
**палюбоўнік-палкоўнік —**
**каб расслабіцца трохі,**
**і работа ў астатнім**
**дацямна, да знямогі...**

А вось яшчэ адзін — праўда, не такі яскравы — партрэт: «Мадонна аэрапорта». Маладая, з хлопчыкам на руках, яна праводзіць у шлях каханага, і на твары яе — «шчасце, боль і страта».

Дарожныя матывы не так і рэдка сустракаюцца ў вершах Шруба. Ён па-майстэрску перадае мільгаценне ўражанняў і пейзажаў у вершы «Самалёт, палёт, сцюардэса...» Нагнятанне назоўнікаў — прыём не новы. Адразу прыходзіць на памяць вядомае: «Ночь. Улица. Фонарь. Аптека». У вершы Шруба, на першы погляд, пануе рух:

**Гасцініца, ноч, сняданак,**
**размовы, паперы, планы,**
**натоўп, мітусня, магазіны,**
**«Дзе вы ўзялі апельсіны?»**

Аднак пры больш уважлівым прачытанні пачынаеш разумець, што імклівы рух — фікцыя, бег па крузе, стракатая карусель. Нездарма ў вершы ўвесь час паўтараюцца адны і тыя ж словы і радкі. Сам аўтар, на жаль, не пераадолеў інерцыі гэтай каруселі, і апошні радок — «... А свет абручамі не

# Не згубіла душы...

*Дзмітро Паўлычка. Таямніца вобліку твайго. Лірыка. Пераклад з украінскай. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1987.*

Нядаўна на беларускай мове ўбачыў свет зборнік Дзмітра Паўлычкі «Таямніца вобліку твайго». Гэта—добрая нагода для нашых чытачоў бліжэй пазнаёміцца з вядомым украінскім паэтам, прачытаць яго творы ў кантэксце нашага прыгожага пісьменства, суаднесці ягоныя творчыя пошукі з пошукамі нашых паэтаў, а яшчэ —і ацаніць праз магчымасці сучаснага беларускага перакладу.

Д. Паўлычка—імя вядомае ў савецкай паэзіі. З 1953 года, калі паэт выдаў першую кнігу вершаў, ён звярнуў на сябе ўвагу ўкраінскіх чытачоў. Ведаюць і цэняць гэтага майстра паэтычнага слова і ў шырэйшым свеце, сведчаннем чаго з'яўляецца вылучэнне яго на атрыманне Дзяржаўнай прэміі СССР.

Гаворку пра паэзію Паўлычкі мне хочацца пачаць са згадкі яго цудоўнай песні, якая ўвайшла ў нашу свядомасць як народная—«Два кольори»:

**Як я малим збирався навесні**
**Піти у світ незнаними шляхами,**
**Сорочку мати вышила мені**
**Червоними и чорними нитками...**

Ужо на прыкладзе гэтай песні можна заўважыць, што паэтычная сістэма Д. Паўлычкі моцна знітавана з народнай паэтыкай, з народным светаадчуваннем і светаадлюстраваннем. У кнізе, выдадзенай на беларускай мове, пацвярджэнне гэтаму мы знойдзем і ў розных радках-прызнаннях: «У душы ад дзяцінства жыла Украіна Песняй маці аб роднай навек старане»; «Ніколі я не аддзяляю Сябе ад бацькавай раллі»; «Сабе імя свайго народа Назаўжды... вазьмі»; і ў традыцыйнай сімволіцы, і ў прыхільнасці да пэўных жанраў, структур, стылістычных сродкаў.

Зусім не дзяжурная дэкларацыя—працытаваныя ў прадмове радкі: «Мої літа—не монотонні дублі: Я змінююсь, як світанковий пруг...» У кнізе—вершы розных этапаў паэтавага шляху, з адзнакамі часу напісання: дзе пераважае публіцыстычная інтанацыя, дзе лірычная насычанасць, дзе філасофская засяроджанасць... Адзін напісаны юнаком, другі—у гады сталення, трэці—у пару, калі адчуваецца патрэба прыпыніцца і агледзецца... Але незалежна ад таго, калі пісаліся, вершы Дзмітра Паўлычкі—шчырае, натуральнае выяўленне і часу, і асобы паэта. А яшчэ ўсім ім уласціва нязменная ўражлівасць, напружанасць паэтычнага зроку, слыху, мыслення. Возьмем, дзеля прыкладу, радкі з аднаго верша:

**Маё каханне—ўсохлая таполя.**
**Ёй радасна, калі зіма**
**прыходзіць:**
**Тады ўсе дрэвы на яе**
**падобны...**

Альбо фрагмент з другога:

**Прыглядайся да рук сваіх.**
**прыглядайся.**
**Ім у памяць яшчэ звычка**
**твайго бацькі,**
**Які мазалямі нават думаць**
**умеў,**
**Кулак сціскаючы пры сустрэчы**
**з крыўдаю...**

Ці такое чатырохрадкоўе:

**Які вялікі свет—бадай, не знае**
**І касманаўт, што ўкруг**
**яго лятае.**
**А знае маці, што жывот**
**цяжарны,**
**Як шар зямны, рукамі**
**засланяе...**

Думаю, няма патрэбы даказваць, што тут якраз тое, што робіць тэкст вершам, верш—творам мастацтва слова: нетрывіяльнасць, асацыятыўнасць, неабмежаванасць пошуку спалучэння розных з'яў.

Пра Д. Паўлычку гавораць, што ён—паэт думкі. Прыведзеныя вышэй прыклады не пярэчаць гэтаму. Але, думаецца, абсалютызаваць такое назіранне не трэба. Бо вось такія вобразы: «Гарэла сонца ранаю барвовай Там, дзе ў лясах канчаецца зямля»; «...на траву сплывае сонца кроў»; «...пчолы снуюць па яго чале, Як на парэпаным зрэзе пня... Вочы, як чорныя тыя рубцы, Зашыты ніткаю веек сівой»; «Чарэшня, быццам маці, край дарогі. У чорных жылах струджаныя ногі. Сарочка цвету белага на ёй,—мярэжкаю ў сінечы веснавой»; «Злякаўшыся, мажныя маладзіцы На ветразях сарочак да нябёс Узносяцца, як рускія анёлы»; «...хмару бачыў. Хлапчуку, Яна здалася мне жняёй журботнай, Што над малым заснула ля снапоў...» Усё гэта не можа нарадзіцца толькі ад думкі. Гэта калі і думкі, ідэі, дык ідэі—жывапісныя. І імі паэзія Паўлычкі багатая.

Мастацкія сродкі ў гэтага аўтара не разлічаны на эфект, не падпарадкоўваюцца мэце «падражніць». Яны заўсёды вывераныя—нельга не паўтарыцца — ураўнаважаны сістэмай мастацкіх, эстэтычных законаў, якія ідуць ад народнага.

У межах рэцэнзіі няма магчымасці ўважліва прасачыць, як адбывалася фарміраванне творчай індывідуальнасці

сцяты» — належнай кропкі тут не ставіць.

У другім вершы, «Блудны сын», рух не ілюзорны — сапраўдны. Кантрастны—на мяжы рэальнага з абсурдным — малюнак падкрэслівае марнасць, безнадзейнасць шляху «ў нікуды», горыч тых, хто накідае Радзіму назаўсёды.

**Пад сонцам пякельным,**
**халоднаю ноччу**
**бясконцай дарогай**
**я крочу і крочу.**

**Асільваю слабасць,**
**адольваю стому,**
**далей і далей**
**ад бацькоўскага дому.**

Бацькоўскі дом, родная сцежка «пад жаўруковым крылом» — вось кропка адліку для паэта. Маці, прысутнасць якой адухаўляе хатнія рэчы, абломкі муроў, што «як хворыя зубы», паляванне на апошняга жураўля... Пра што б ні пісаў паэт, ён выбірае словы не зацяганыя, і форма яго вершаў такая ж нестандартная, адметная, як і іх змест. Яна, кажучы словамі Алеся Яскевіча, не фармальная, жывая, вытворная ад матэрыялу. Павел Шруб настойліва ідзе да выяўлення ў слове сваёй індывідуальнасці, свайго бачання свету. А «кожная новая індывідуальнасць, калі ёй удасца знайсці сябе, свой стыль, свой пункт погляду, як бы нанова прарэзвае жыццёвыя пласты» (А. Яскевіч, «Грані майстэрства»).

«Зборнік «Лабараторыя», — чытаю выдавецкую анатацыю, — вызначаецца сталасцю думкі і маладосцю пачуцця, высокім майстэрствам». Пра высокае майстэрства мы гаворым звычайна ў дачыненні да класікаў, але не будзем здзіўляцца экспрэсіўнасці эпітэта: яшчэ ніводная з анатацый не сказала пра аўтара блага... Адзначыўшы лепшае (праўда, далёка не ўсё), мушу кінуць пагляд і на астатняе — выключна дзеля аб'ектыўнасці і паўнаты малюнка. Давайце разам прачытаем гэты кароткі верш:

**Навошта мне ўночы сонца**
**ўваччу,**
**нейтроны праз сон дзіцячы?**
**Я гэтага дзіва не бачыў**
**і бачыць яго не хачу!**

Асабіста я доўга шукала сувязь паміж нейтронамі і дзіцячымі снамі, доўга намагалася знайсці выпаўшае звяно ў ланцужку метафары.

Такімі ж невыразнымі, цьмянымі па задуме, а значыць і па выяўленні, падаліся мне вершы «Спружына», «Двайчная сістэма», «Прабуджэнне пяску», «Быць ці не быць?», «Ружа», «Ланцуг», «Рамантычная балада», «Запавет»... Кідаецца ў вочы, што нават назвы вершаў не характэрныя для паэтыкі Шруба. Яны ці празмерна «навуковыя» (нагадаю назвы вершаў Г. Булыкі: «Матэматычны трыпціх», «Нараджэнне бронзы») ці, наадварот, прэтэнцыёзна-ўзвышаныя. Як толькі паэт пачынае спяваць з чужога голасу, ён фальшывіць! Сюды ж трэба дадаць шэраг вучнёўскіх, «складных» вершыкаў — «Маладыя», «Надрэчная ідылія» і некалькі трыялетаў, без якіх, з лёгкай рукі непаўторнага Максіма Багдановіча, не абыходзіцца ніводная першая кніга. Мнагавата і чыста моўных, стылёвых хібаў. Вёскі ў Шруба задумлівыя, як дзяды, помнікі створаны «з жыццяў, сэрцам адшліфаваных», электроны ў яго «з рознымі спінамі» (зарадамі?), «юнак малады», «сабор вясны паўнее», у выразе «ўлонне чысты ліст» гаворка відочна ідзе пра ліст паперы. Заўважаеш няўдалыя, каструбаватыя выразы: «Хрусткае шкло маіх дзён... Ці атрымаецца з вас што вартае?» Спатыкаешся на асобных словах: «тэрмаяд», «суседы»... Знаходзіш не ўласцівыя паэту, запазычаныя інтанацыі і прыёмы: «ракі счэзлі ад раку, з дусту вытлела тля»... Паэт з цяжкасцю прадзіраецца праз слоўныя зараснікі, ідучы да адзіна патрэбнага, адзіна магчымага слова. Можа, яму нестае беларускамоўнай практыкі? Можа, дае пра сябе знаць адсутнасць філалагічнай адукацыі? Зрэшты, моўныя «блохі» — не галоўнае. Але як быць з «блохамі», што памерам у верш, — з досыць прыкметным баластам? Ці вынікае гэты баласт з недахопу патрабавальнасці паэта да сябе, з неўсталяванасці мастацкіх крытэрыяў, ці памер кнігі (звыш чатырох аркушаў) — нібы пінжак з чужога пляча?

Сёння, калі імя рэцэнзента паведамляецца чытачу, рызыкоўна быць паблажлівым. Бо ўсім вядома: запанібрацкае паляпванне маладзейшых па плячы мэтрам нічога не каштуе і з'яўляецца па сутнасці мядзведжай паслугай. Пра тое, што Павел Шруб здольны абысціся без скідак, сведчаць яго лепшыя вершы.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

---

Д. Паўлычкі. Але хочацца звярнуць увагу вось на што: ён, здаецца, насуперак модным уплывам, розным навацыям упарта спрабаваў увесь час разабрацца ў традыцыйным, класічным. І рос на гэтым. Гэта датычыць не толькі традыцый фальклорных, уласна нацыянальных. Не меней сімптаматычная, на мой погляд, нязменная адданасць форме санета: ужо трыццаць гадоў Паўлычка шукае ў гэтай форме сваё, стварыўшы цыклы санетаў «львоўскіх», «кіеўскіх», «падольскай восені», «белых»... У сувязі з гэтым нельга, бадай, не згадаць падрыхтаваную ім анталогію санета сусветнага (1983 год)—выданне унікальнае як задумаю, зместам, так і аб'ёмам працы.

У зборніку «Таямніца вобліку твайго» мы знаходзім выдатныя ўзоры Паўлычкавых «белых санетаў»—«Старая рыфма», «Нецярплівасць», «Мост», «Сутнасць», «Прагавітасць», «Асвенцім», «Святляк» —якія, без перабольшвання, таксама маглі б заняць належнае месца ў любой анталогіі. Ну хоць бы гэты:

**Пастух хацеў пачуць хвалу**
**ад бога**
**У вогненным кусце і запаліў**
**Маленькі корч сухога ялаўца.**
**І полымя шугнула, як**
**з гранаты,**
**І нетры хвойныя пайшлі**
**агнём,**
**І стала страшна пастуху**
**на ўзлессі,**
**Што птушаняты пагараць**
**у гнёздах,**
**Якіх было нямала навакол.**

**Ён кінуўся гасіць той ялавец.**
**Ды позна ўжо было. Усё згарэла.**
**А бог маўчаў, бо іншага любіў.**

**Так вы, не ўчуўшы голасу**
**любові,**
**Спалілі, цёмныя ілжэпрарокі,**
**Ад нецярплівасці мільёны крыл.**
**(«Нецярплівасць»).**

Адным словам, выдадзеная «Мастацкай літаратурай» кніга Д. Паўлычкі дае нам даволі поўнае ўяўленне пра майстра слова братняга народа.

Што датычыць перакладаў, дык лічу патрэбным звярнуць увагу на наступнае: іх рабілі нашы прызнаныя паэты, таксама майстры, што з «бязмежнай удзячнасцю» прыняў і прызнаў сам аўтар ва ўступным слове-звароце «Да беларускага чытача». Тым болей, што кожны з іх, здаецца, выбіраў з Паўлычкавых твораў самае блізкае, падобнае да свайго даробку і сваіх творчых арыенціраў. Таму ў гэтым зборніку, натуральна, адлюстраваліся і творчыя асобы перакладчыкаў — Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, Н. Гілевіча, В. Зуёнка, Я. Сіпакова. І спраўдзілася думка Д. Паўлычкі, выказаная ва ўступе, што паэзія «пад рукамі майстра, пераходзячы ў іншую мову, ...не губляе душы».

**Іван ЧАРОТА.**

---

**КУЛЬТУРА МОВЫ**

# Адкуль бяруцца «блохі» ў мастацтве

**Алесь АСІПЕНКА**

Напачатку некалькі прыкладаў: «яго турботы знайшлі інтэрнацыянальнае разуменне», «кантралююць моўную дасканаласць», «у выніку захаплення», «для параўнання колераў прыцягнута рэалія клінковы сыр», «вобразныя сродкі аднолькавага матэрыяльнага выражэння», «гармонія адзінства двух маўленняў», «у тэксце не вытрыманы знешні кантэкст», «або з галавой нешта робяць», «словы з'ездаў», «стылістычная арганізацыя мовы садзейнічае рэалізацыі...»

Усе гэтыя прыклады ўзяты — іх можна было доўжыць бясконца — з артыкула М. Карповіч, якім штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» адкрыў вельмі надзённую і патрэбную гаворку пра культуру мовы.

Не было сумнення, што каструбаватая, псеўданавуковая мова выкладчыцы кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна выкліча ў літаратараў, чые творы яна аналізавала, рашучую нязгоду. Так яно і здарылася: у «ЛіМе» ад 16 кастрычніка змешчаны кароценькі ліст М. Дубоўскага, якога М. Карповіч, дарэчы, перахрысціла ў Міколу Дубоўку. Пісьменнік вельмі далікатна ўпікнуў М. Карповіч у непераканаўчасці моўнага аналізу як апавядання У. Рубанава, так і твораў другіх пісьменнікаў.

Няйначай, для таго, каб гаворка пра культуру мовы не звярнула на абочыну прыватных папрокаў, рэдакцыя «ЛіМа» сказала яшчэ і сваё слова, самакрытычна прызнаўшы, што «артыкул М. Карповіч сапраўды трэба б было нам адрэдагаваць больш старанна».

Такую пазіцыю варта вітаць, бо ў нас некаторыя друкаваныя органы не спяшаюцца прызнаваць памылкі, і нататка пра шчупака, які праглынуў сабаку, свежы таму прыклад.

Але вось што падумалася мне: ну, добра, артыкул М. Карповіч сапраўды можна было адрэдагаваць больш старанна. Праўда, дзеля гэтага яго давялося б перапісаць ад першай да апошняй фразы. Але навошта мне чытаць артыкул, які адрэдагавалі, адгаблявалі, адлакіравалі? Чый ён цяпер? Рэдакцыйны? Аўтарскі? І што гэта за калектыўная творчасць? Ах, у ім была слушная думка! Даруйце, думка, якую выказалі неахайна, ужо не слушная. Дакуль жа мы будзем патураць няўменню выказваць думкі на паперы?..

На жаль, мы, самі таго не заўважаючы, пачалі — і даўно — заахвочваць журналістаў і пісьменнікаў, якія дрэнна ведаюць мову, не хочуць яе ведаць, бо гэта ім не патрэбна, нават не выгадна. Да паслуг творцаў такога манеру існуе вялікі штат рэдакцыйных і выдавецкіх рэдактараў, якія сумленна папраўляць, навядуць глянец на любым непісьменным опусе. Сумленна правяць усё: артыкулы, апавяданні, аповесці, раманы, вершы, п'есы, крытычныя артыкулы і звычайную гумарэску. Стала гэта нормай, нават абавязкам, і звычайнаму аўтару толькі нешта трэба асвятліць ці, як кажуць, знайсці патрэбную тэму.

У дваццатыя — саракавыя гады калі ў літаратуру прыйшло нямала людзей, прама скажам, малапісьменных, затое скіраваных у літаратуру, рэдактар быў неабходны, як паветра, каб хоць троху прычасаць творы, якія прэтэндавалі на ісціну ў першай інстанцыі. Здавалася, пройдуць гады, народ наш стане пісьменным, тады яму рэдактар будзе малапатрэбны. Аж не! Прывыклыя да мыліц ніяк не адважацца ў падарожжа без іх. Больш таго, укаранілася ўпэўненасць, што толькі рэдактар нясе перад грамадствам поўную і аднабаковую адказнасць як за ідэйную скіраванасць твора, так і за ягоную мову.

Некаторым такое становішча прыйшлося даспадобы. Нявычытаныя пасля машынкі рукапісы, абы-як скіданыя зборнікі вершаў і прозы, артыкулы з такой мовай, што, па даўняму выразу Янкі Брыля, пяра няма куды ўбіць, — усё гэта запаланіла рэдакцыі і выдавецтвы. А навошта гібець над рукапісам? Добрыя дзядзькі давядуць яго да ладу. Галоўнае — прабіцца ў план, а там да сігнальнага экземпляра неяк справа дойдзе.

Прыгадваю, як некалі абмяркоўваліся творы маладых. Хвалілі з асаблівым запалам ці не першую кнігу пісьменніка. Раптам нясмелы голас:

— Але ж мова, таварышы! Чытаць немагчыма, — далікатна заўважыў стары пісьменнік.

Ён разгарнуў кнігу, пачаў прыводзіць моўныя неахайнасці. І тут нехта спытаўся:

— А хто рэдактар кнігі? Чаму ён не мог паправіць?..

Рэдактару знялі прагрэсіўку, пісьменнік свой ганарар атрымаў поўнасцю. Затое цяпер той пісьменнік павучае другіх, як трэба пісаць, хоць сам не вельмі і навучыўся.

Так ці іначай, але мы патураем моўнай неахайнасці, утрыманству і абыякавасці да мовы, аддаўшы яе на водкуп рэдакцыям.

Добра, калі ў рэдакцыі ёсць сапраўды вопытны, пісьменны рэдактар, які ставіцца да мовы мастацкага твора не з меркамі фармальнай стылістыкі. А калі сам рэдактар недасканала ведае мову? Тады здараецца нешта неверагоднае: творы з жывой мовай прыдзірліва правяцца, а творы з шэрай мовай, але падагнанай пад мерку фармальнай стылістыкі, праходзяць рэдактуру бесперашкодна.

Нагадаю адзін выпадак такога рэдагавання.

Раман Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», калі памятаеце, пачынаецца з даволі доўгага апісання грушы на строме Дняпра. Дык вось, аднаму «дарадцу» здалося, што пачатак рамана загрувашчаны, што гэта стоміць чытача і нават адаб'е ў яго ахвоту чытаць раман далей, таму ён прапанаваў замест амаль дзвюх старонак апісання грушы і Дняпра сказаць усё адной фразай: на крутым беразе Дняпра расла старая груша.

Як кажуць адрэдагаваў зялёную сасну ў тэлеграфны слуп...

І яшчэ пра нашу абыякавасць.

Мы доўга не мелі тлумачальнага слоўніка беларускай мовы. Да пяцідзесятых гадоў фактычна не было і грунтоўнага руска-беларускага слоўніка. Цяпер такія ёсць. Выдадзены слоўнікі паасобных гаворак. Мы спакваля абзаводзімся слоўнікавай гаспадаркай, і гэта выдатны факт нашай рэчаіснасці. Ну, што ж, калі ў слоўніках ёсць нейкія недахопы — працуюць з імі прафесіяналы. Смешна, калі пісьменнік-прафесіянал не адрозніць калькі ад жывога слова. Смешна, калі ён са слоўніка возьме не дакладнае слова, а прыблізнае.

Бяда ў тым, што некаторыя пісьменнікі не заглядваюць у слоўнікі наогул, не маюць іх пад рукамі.

Мы сапраўды трапілі ў абсурднае кола моўнай безвыходнасці, у тым ліку і з рускай мовай. Мова з дысцыпліны асноўнай ператварылася ў Папялушку. Ды і дзе навучыцца — апрача кніг — мове, якая несла б дзіцяці таямнічасць і прыгажосць? Канцылярскія звароты абступаюць чалавека з малых гадоў. Ад іх няма збавення. Школьныя падручнікі пішуцца сухой, сумнай мовай. А пабывайце на зборах піянерскіх атрадаў і дружын, на вучнёўскіх камсамольскіх сходах. Шмат казёншчыны нясе радыё і тэлебачанне, газеты. Ды і самі мы, прывыклыя да казённых выразаў на працы, нясём іх у сям'ю, перадаём дзецям. Перад націскам чыноўна-бюракратычнай мовы стала адступаць і літаратура.

Ужо ў школе пачынаецца падзел вучняў на тых, хто пойдзе па дарозе тэхнічнага навучання і хто асуджае сябе на гуманітарныя навукі. Для першых мова і літаратура патрэбны толькі для таго, каб неяк напісаць пісьмовую работу на ўступных экзаменах. Гэта ўголас не гаворыцца. Гэта зразумела і так. Пісьмовай работай на ўступных экзаменах фактычна і заканчваецца знаёмства будучай тэхнічнай інтэлігенцыі з літаратурай і мовай. У тэхнічнай ВНУ пісьменнасць непатрэбна. Страшэнны парадокс нашага часу, дзе прынцып гарманічна развітой асобы павінен дзейнічаць ва ўсіх сферах жыцця.

Вось чаму, здаецца мне, пытанне культуры мовы набывае ўсё больш глабальны характар, становіцца справай агульнадзяржаўнай. Гэта таксама чалавечы фактар, без якога няма руху наперад. І калі гаварыць ужо ў больш канкрэтным плане, дык трэба падумаць, як бы аб'яднаць разрозненыя сілы гуманітарыяў адным памкненнем данесці да кожнага паасобку і ўсім разам, што культура мовы — гэта клопат не толькі пісьменнікаў або стылістаў, гэта ўсіх нас клопат, гэта наша разуменне свайго месца сярод народаў, гэта адна з крыніц савецкага патрыятызму.

# НЕ ВЫНІК, А ПУНКТ АДЛІКУ

куты і страты (II частка) і новы ўздым сіл (III частка), да жыццесцвярджэння, да перамогі святла. Пры ўсёй абагульненасці гэтай праграмы і нават некаторым схематызме яе выкладання ў Сімфоніі ёсць штосьці вабнае. Гэта—пераканальнае валоданне тэхналогіяй развіцця матэрыялу, уменне будаваць буйную форму, каларыстычнае чуццё, веданне аркестра, словам, прафесіяналізм маладога кампазітара. Яго аркестр гучыць ясна, выразна, насычана, прыгожа. Безумоўна, ёсць у творы і спрэчнае (часам адчуваецца шматслоўнасць, неашчадная шчодрасць у выкарыстанні сродкаў і г. д.), і, тым не менш, дар аркестравага мыслення аўтара відавочны.

**Сюіта для інструментальнага ансамбля і мецца-сапрана «Беларуская бахіяна». Зноў імпульс звонку, які ідзе ад ідэі выдатнага бразільскага кампазітара Э. Віла-Лобаса: пад эгідай музыкі І. -С. Баха (як сімвала духоўнасці, узвышаных пачуццяў) спалучыць у адзінстве супрацьлегласцей нацыянальныя і агульнамузычныя тэндэнцыі. Тут усё строга, сцісла, часам нават аскетычна, усё да дробязей разлічана і прадумана (зноў жа, з прафесійнага боку тут усё вельмі грунтоўна). Ды, на жаль, твор робіць уражанне вопыту, эскізу, эксперымента; асаблівай глыбіні ў выразнасці музыкі аўтару дасягнуць не ўдалося. «Нацыянальнае», як падалося пры першым праслухоўванні, трактуецца занадта павярхоўна, а «агульнамузычнае» яўна пераймае агульныя формы руху, без мастацкага абагульнення. І ўсё ж я не назваў бы гэты кампазітарскі вопыт няўдалым. Тут ёсць зерне мастацкай ідэі, якое яшчэ можа даць добрыя ўсходы,—варта папрацаваць.**

Найбольш зацікавіў твор, прысвечаны юнай піяністцы Паліне Асецінскай,—канцэрт «Сны Паліны» для фартэпіяна, сінтэзатара, святла, спеваў птушак, Арлекіна і сімфанічнага аркестра. Ужо сама такая назва сведчыць пра шырокую трактоўку кампазітарам жанру канцэрта: канцэртаванне тут разгортваецца паралельна з жывапісным радам, з тэатралізацыяй. (Адна істотная заўвага: на прэм'еры па патрабаванні тэлебачання быў зняты адзін з кампанентаў агульнага ансамбля, вынесены ў загаловак, —святло. Ці правамерна гэта? Як аўтар пайшоў на скажэнне сваёй задумы? А, можа, святло зусім не патрэбна і ніякай функцыянальнай нагрузкі не нясе? Мне думаецца, што калі ўжо мастацтва і вымагае ахвяр, то ахвярай не павінна быць партытура.) Ідэя спалучыць міні-спектакль з акадэмічнай формай канцэрта новая і арыгінальная, па-мастацку апраўданая, твор успрымаецца свежа, слухаецца з цікавасцю.

Які змест канцэрта? Сам кампазітар расказвае: «Калі пісаў музыку, мною валодала пачуццё, звязанае з думкай пра птушак, што пяюць у зоне Чарнобыльскай АЭС, і адчуванне сонечнай, жыццярадаснай планеты па імені «Паліна», планеты нявывучанай, не спазнанай бацькамі, мацяркамі, пераканаными ў сваёй бязгрэшнасці педагогамі, музыкантамі...» У музыцы гэта выказана то летуценнай тэмай светлага дзяцінства, то віртуознымі кадэнцыямі—гульня і гарэзлівасць Паліны; гучыць тут строгі голас бацькі (тэма трамбона), дабрадушнасць мамы (тэма віяланчэлі). І, нарэшце,—фінал, дзе гучанне набывае драматычную выразнасць: трагедыя, патэнцыяльна магчымая ў рэальным свеце, урываецца ў канцэрт і перакрэслівае жыццё, дзяўчынку, яе раяль, музыку... Канцэрт папярэджвае—гэта можа здарыцца!

Безумоўна, таленавітае дзіця Паліна Асецінская была цэнтрам прыцягнення, і дзякуючы сваёй непасрэднасці і музыкальнасці яна ў многім садзейнічала вялікаму поспеху канцэрта.

Той вечар у філармоніі абуджаў эмоцыі, нараджаў спрэчкі, даваў спажыву для разваг. Гэта добрыя прыкметы, якія сведчаць: у беларускай музыцы ёсць такі самабытны талент і добры прафесіянал—Пётр Альхімовіч. Аўтарскі вечар быў для яго не падвядзеннем вынікаў, а своеасаблівым пунктам адліку для далейшага творчага развіцця.

**В. МНАЦАКАНАЎ.**

П. АЛЬХІМОВІЧ сярод выканаўцаў.

Фота Ул. КРУКА.

# ПРА ДОБРЫЯ ЎРАЖАННІ І...

тычным талентам, які ярка праявіўся ў каваціне Эльвіры з оперы Д. Вердзі «Эрнані». «Калыханка» П. Чайкоўскага прагучала пластычна і выразна, з прывабнай музычнасцю. Багатая нюансамі гукавая палітра ў спалучэнні са шчырасцю ў перадачы пачуццяў — найбольш прывабныя рысы мастацтва маладой спявачкі.

Разнастайна была прадстаўлена ў праграме беларуская музыка: «Скарбонка мінулага» Л. Шлег у выкананні ансамбля «Камерата» (кіраўнік А. Шыкуноў); «Беларуская полька» П. Альхімовіча, выкананая дуэтам цымбалістак А. Ткачовай і А. Філіпенка; «Варыяцыі для цымбалаў» У. Кур'яна — лаўрэатам усесаюзнага конкурсу А. Ткачовай.

Эмацыянальным цэнтрам канцэрта сталася выступленне Маладзёжнага камернага хору пад кіраўніцтвам І. Мацюхова. Для мяне гэта першая сустрэча з калектывам, сустрэча надзвычай радасная і хвалюючая. Літаральна захапляе адухоўленасць, поўная арганічнасць, прыгажосць і чысціня выканання «Юнай Фрау» Ханса Леа Хаслера. Харавыя апрацоўкі песень Д. Ленана — П. Макартні і «Тайна» П. Сертона прывабліваюць філіграннай адточанасцю дэталяў, высакароднасцю выканання. Апантанасць спевакоў, якія аддаюць любімаму мастацтву вольны ад працы і вучобы час, іх энтузіязм — захапляюць. Слухаеш — і сама сабой прыходзіць думка: вось існуе на грамадскіх асновах сапраўдны прафесійны камерны хор. Хто вырашыць далейшы творчы лёс, статус гэтага калектыву?

І ўсё ж, успамінаючы ўвогуле станоўчыя ўражанні ад канцэрта творчай моладзі, міжволі ловіш сябе на пачуцці незадаволенасці, звязаным як з самім канцэртам, так і з атмасферай у зале. Я ўжо казала пра рэжысуру, якая выявілася ў логіцы расстаноўкі нумароў праграмы, але надта вялікія паўзы перад выкананнем, што зацягвалі канцэрт, крыху папсавалі ўражанне. І яшчэ... Мы шмат апошнім часам наракаем на незапоўненыя тэатральныя і канцэртныя залы, адсутнасць у моладзі цікавасці да так званай сур'ёзнай музыкі. Усё гэта ў поўнай меры выявілася і тут. Мала таго, на працягу ўсяго канцэрта, пасля амаль кожнага нумара і ўручэння кветак, залу пакідала некалькі чалавек. Апагею гэты «адыход» дасягнуў пасля выступлення камернага хору: літаральна трэцяя частка прысутных у зале, адапладзіраваўшы, адкрычаўшы «брава» і ўручыўшы кветкі І. Мацюхову, накіравалася да выхаду. Што гэта? Нявыхаванасць, няўменне паважаць сябе і іншых? Такое даводзілася назіраць толькі ў кінатэатрах, дзе частка публікі, «не разабраўшыся» ў назве, адчувала рэзкую неабходнасць «прагаласаваць нагамі», пакідаючы фільмы Ф. Феліні, Л. Бунюэля, Т. Абуладзе, К. Мураатавай. Але ў канцэртнай зале філармоніі з такімі паводзінамі «аматараў музыкі» дагэтуль я не сутыкалася. З сумам трэба сказаць, што душэўная глухата ўласцівая часам і самім музыкантам, бо сярод «уцекачоў» былі і яны.

Але будзем спадзявацца, што «кропля дзёгцю» не сапсавала ўдзельнікам канцэрта і яго слухачам радасць сустрэчы з цудоўнай музыкай і з не менш яркім выкананнем.

**Іна ГУРАРЫЙ.**



Спявае салістка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Н. БЯРЭЗІНА.



Маладзёжны камерны хор пад кіраўніцтвам І. МАЦЮХОВА.



Саліст Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР І. ШУПЕНІЧ.

Фота Ул. КРУКА.

кранальныя сюжэты, драматычныя выпадкі. Вось адзін з іх.

Летам сорак першага года Другі БДТ упершыню выступае ў Петразаводску, абавясціўшы прэм'еру «Несцеркі». Ды напярэдадні гастроляў захворвае выканаўца ролі Насты. Яе замяняюць другой актрысай. За некалькі гадзін да адкрыцця заслоны... захворвае і тая. Што рабіць? Рэжысёр спектакля Н. Лойтар кажа: «Выратаваць нас можа толькі Таня...» Звяртаюцца да Заранок: «Здолееш?» Таня толькі рукамі развяла: маўляў, калі трэба... І як яна адразу гарэзліва, летуценна і драматычна правяла ролю, маглі б расказаць хіба тыя, хто быў побач з ёй на сцэне. Атрымаўся сапраўды народны, пасялянску сакавіты і маляўнічы дзявочы характар. Адметны. Пасцэнічнаму завершаны.

Расказваючы мне пра гэта, Шурык Ільінскі («сам» Несцерка!) тады заўважыў: «Народжаная для сцэны...» Мабыць, і праўда, Т. Заранок — з тых, каму прыродай наканавана акцёрская творчасць. Яна — з плеяды «другога артыстычнага пакалення» коласаўцаў. Гэта значыць, што яна калега і партнёр перш-наперш З. Канапелькі, А. Труса, А. Шэлега, І. Матусевіча. Тэатралы і сёння яшчэ прыгадваюць вясёлы і па-сонечнаму жыццярадасны камедыйны спектакль 1934 года ў Другім БДТ «Цудоўны сплаў», дзе з такім бязмежным тэмпераментным захапленнем выступалі ў галоўных ролях нядаўнія маладыя студыйцы гэтага тэатра. Сярод іх ярка зіхацеў талент Т. Заранок. Праменіў гэты талент і ў «Жаніцьбе Фігара» П. Бамаршэ, дзе актрыса побач з А. Ільінскім (Фігара) і Р. Кашэльнікавай (Сюзанна) была такой іскрыста хітраватай і дасціпнай Фаншэтай.

Аднойчы рэжысёр М. Міцкевіч сказаў мне, што ў артыстычным тэмпераменце Т. Заранок ёсць штосьці ад прыроднага скамароха, гатовага імгненна пераўвасобіцца, пераапрануцца, падаць шарж або пародыю, заспяваць і заскакаць. Яна з нейкай прытоенай музычнай інтанацыяй вымаўляла на сцэне роднае беларускае слова. У яе манерах і жэстах заўсёды дзівосна захоўвалася тое, што чалавек успрымае звычайна з маленства: я сказаў бы, адзнакі і прыкметы сялянскага паходжання (яна з Віцебшчыны).

Народжаныя для сцэны... На сцэне Т. Заранок часта раскрывала жаночы характар, народжаны для кахання. Без вульгарнасці і таннай спрошчанасці актрыса далучала гледача да душэўнай прагі дзяўчыны быць шчаслівай каханай і шчасліва кахаць. Якая гарачая і — зноў жа ў адпаведнасці з няпісаным сялянскім кодэксам жаночага гонару — стрыманая была яе Аксюша ў «Лесе» А. Астроўскага! Адчуўшы ў Аксюшы самавіты мастацкі талент, трагік Генадзь Нешчасліўцаў кліча яе «ў актрысы» — на тэатральныя падмосткі. Ён кажа Аксюшы амаль тое ж, што пра Т. Заранок казаў калісьці А. Ільінскі: «Народжаная для сцэны...»

Я шкадаваў, што пазней Т. Заранок пакінула Віцебск і ўступіла ў трупу Брэсцкага тэатра імя ЛКСМБ. Мне здавалася, што самае важнае яна ўжо зрабіла і магла б яшчэ многае зрабіць менавіта на беларускай сцэне. Але аднойчы ўбачыў яе ў галоўнай ролі ў меладраме «Юстына» фінскага драматурга Х. Вуаліёкі і зноў быў узрушаны глыбінным спасціжэннем гэтай актрысай драмы сялянскай жанчыны, якая кахае мужчыну з зусім чужога для яе грамадскага асяроддзя. Адчуў непадроблены шчыры тэмперамент, што далікатна стрымлівае сваю вулканічную страсць. «Прачытаў» у вачах глыбокую драму жаночай душы. Пасля гэтага спектакля мой сябра А. Макаёнак параіў паглядзець Т. Заранок яшчэ і ў ролі Ганны Чыхнюк ў ягонай камедыі «Выбачайце, калі ласка!» Паглядзеўшы, я паверыў драматургу, што і сапраўды—у Брэсце была, бадай, самая каларытная і вельмі ж беларуская макаёнкаўская Ганна...

Творчага партрэта Т. Заранок пісаць я не маю права, бо бачыў яе не так часта. Ды тое, што яна рабіла на падмостках у Віцебску, а потым ў Брэсце, было па-мастацку аргінальным, грунтоўным і надта жывым. У крыві такіх акцёраў пульсуе нешта і на самой справе блізкае колішнім скамарохам на Беларусі, ад якіх бралі штосьці важнае для свайго тэатра і роднасць з якімі старанна захоўвалі І. Буйніцкі, Ф. Ждановіч, У. Галубок, Я. Міровіч, М. Міцкевіч. У мастацтве такіх артыстаў, як Б. Платонаў і А. Ільінскі, В. Пола і Р. Кашэльнікава, А. Шэлег і І. Матусевіч, З. Канапелька і Т. Заранок, тыя традыцыі, натуральна, набывалі эвалюцыйныя змены, але нельга не быць ім удзячным за іх адданасць народным вытокам творчасці.

Гэта мне і захацелася нагадаць чытачам «ЛіМа», калі Таццяна Піліпаўна Заранок адзначае дзень нараджэння. Нішто таленавітае не забываецца!

**Заір АЗГУР.**

ВІНШУЕМ

# Аляксею РУСЕЦКАМУ—75

1 снежня спаўняецца 75 год з дня нараджэння вядомага паэта Аляксея Русецкага. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала юбіляру прывітальны адрас, у якім гаворыцца:

**«Дарагі Аляксей Сцяпанавіч!**

**Сардэчна вітаем Вас, вядомага беларускага паэта, у дзень Вашага 75-годдзя.**

**Вы прайшлі доўгі і нялёгкі жыццёвы шлях. Да вайны, пасля заканчэння Маскоўскага заавэтэрынарнага інстытута, працавалі ва ўпраўленні саўгасаў у горадзе Мінусінску, у бактэрыялагічных лабараторыях Масквы і Мінска. У гады Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічалі ў баях на Калінінскім, Заходнім, 3-м Прыбалтыйскім франтах, прымалі ўдзел у разгроме імперыялістычнай Японіі.**

**Вярнуўшыся ў 1947 годзе ў Мінск, працавалі ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, а потым у рэдакцыях часопісаў «Беларусь» і «Полымя».**

**Свае першыя вершы надрукавалі ў 1935 годзе. Але стала займацца паэтычнай дзейнасцю змаглі тольні ў пасляваенны час. На пачатку 50-х гадоў выйшаў з друку Ваш першы зборнік вершаў «У заўтрашні дзень». У гэтай паэтычнай кнізе Вы шчыра і ўсхвалявана расказалі пра лёс свайго пакалення, пра тое, што перажылі і ўбачылі. Вашы вершы і паэмы — гэта мастацкае адлюстраванне жыццёвых падзей з пункту гледжання чалавека працы, імкненне глыбока зазірнуць у духоўны свет сваіх сучаснікаў, паказаць і асэнсаваць узаемасувязі працэсаў у жыцці і лёсе народа. З кожнай новай кнігай філасафічнасць Вашай паэзіі паглыблялася, а мастацкія вобразы рабіліся больш ёмкімі і пераканаўчымі.**

**Прыгадаем гэтыя кнігі. Ні адна з іх не прайшла незаўважанай. Гэта — «Святло акон тваіх», «Усход і захад», «Яго вялікасць», «Служба святла», «Зямля гаворыць зорам», «Позірк», «Паэмы», «Кроні сэрца», адзначаная літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова, «Хвала жыццю». У 1973 годзе выйшлі Вашы выбраныя вершы і паэмы «Два колеры жыцця», а ў 1982 — «Выбраныя творы» ў двух тамах.**

**Вашы лепшыя вершы і паэмы перакладзены на многія мовы народаў СССР. У выдавецтве «Советский писатель» выйшлі Вашы кнігі «Его величество» і «Служба света».**

**Паспяхова выступаеце Вы і ў жанры перакладу.**

**Заслугоўвае самай шчырай падзякі і Ваша грамадская праца — праца старшыні праўлення Беларускага аддзялення Літфонду СССР.**

**Як удзельнік Вялікай Айчыннай вайны і нястомны працаўнік, Вы ўзнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай вайны II ступені, ордэнам Чырвонай Зоркі і медалямі.**

**У 1973 годзе Вам было нададзена званне заслужанага работніка культуры БССР.**

**Ад усяго сэрца віншуючы Вас са слаўным юбілеем, жадаем Вам, дарагі Алексей Сцяпанавіч, добрага здароўя і вялікіх поспехаў у жыцці і творчасці».**

Супрацоўнікі штотыднёвіка далучаюцца да гэтага віншавання.

# ВЕРНАПАДДАНЫ ПАЭЗІІ

Напрыканцы сходніх восеньскіх дзён, у самы пярэдадзень зімы і сваёй такой важнай і важкай даты, як семдзесят пяць год, ён сабраўся ў баравы прытулак на Іслачы.

— Горшага сезона ты не мог прыдумаць?

— А якраз мне такі і патрэбны.

— Уцякаеш ад юбілею?

— Ды не, хачу напісаць паэму. Застаўся яшчэ адзін даўні сюжэт. Напішу і буду вольны.

Дарагі мой дружа, падумалася мне наўздагон пасля развітання, ніколі ты не будзеш вольны ад паэзіі, ад яе ўлады над табой. У нашай літаратуры гэта рэдкі, калі не адзіны такі прыклад вернасці ёй. За ўвесь свой творчы век ты ні разу не дакрануўся да прозы, не пішаш апавяданняў, артыкулаў, рэцэнзій. У адрозненне ад многіх нас, грэшных, чорнарабочых літаратуры, ты ў ёй — арыстакрат, Аляксей Русецкі — чысты паэт!

Добра гэта ці дрэнна? — не ведаю. Не магу ўпэўнена адказаць. Значыць, такая ўласцівасць твайго ўспрымання свету, спосабу яго спасціжэння, хаця, перачытваючы зараз аўтабіяграфію, напісаную табой яшчэ чвэрць веку таму назад, па праўдзе сказаўшы, я меў не меншую асалоду радаснага адчування дакладнасці і выразнасці кожнага празаічнага слова, зрокавай трапнасці вобразаў і характарыстыкі часу, родных, блізкіх і знаёмых табе людзей, чымся ад многіх любімых мною тваіх паэтычных твораў.

Аўтабіяграфія. У кожнага з нас яна, мабыць, і павінна быць самым галоўным творам-лёсам. У каго — напісаным, у каго — ненапісаным, але перажытым, асэнсаваным цераз уласны вопыт, яна і ёсць тое люстра, якое адно скажа, які ты чалавек.

У адной са сваіх лепшых паэм, што трывала ўвайшла ў творчы актыў беларускай паэзіі, ты свайго героя, над лёсам якога разважаеш, трывожышся ў самую трагічную эпоху нашай гісторыі, назваў не імем, а і найвышэйшым тытулам «Яго вялікасць». Арэол сучасніка табе ўбачыўся ўжо на касмічных вышынях, а сіла і ўлада яго сталіся настолькі бясконцыя, што і сам ён сумеўся ад сваіх заваёў і ад таго, што «зоры носам нюхае ракета».

Як і належыць паэту, ты высока сягаеш у сваіх развагах пра чалавека. У абсягу ўсёй гісторыі ён — і яго вялікасць, уладар, але ён жа — і нявольнік, раб.

Згасаў крывёй у пыле рабскі гнеў,
і нейк у думках, скораных знямогай,
распяў, сабе на ўцеху, раб і бога
прысніў, што мукі нават бог цярпеў.

З вопыту папярэднікаў, з уласных горкіх урокаў не раз і мы ўпэўніваліся, што багі, створаныя людзьмі, не цярпяць асаблівых мук, церпяць рабы. Аднак чалавек, няспынны і няўтольны, пачынаючы ад міфічных і казачных герояў, усё яшчэ шукае партнёраў-спаборнікаў, не роўных сабе, а заўсёды болей разумных, дзёрзкіх, смелых. Людская фантазія вымагае маштабаў, адпаведных найвялікшым, усё новым і новым адкрыццям. Нездарма ж мы і дагэтуль прагна ўслухоўваемся ў сенсацыйныя гіпотэзы аб жыцці на іншых планетах, аб магчымых нашых братах па розуму. І ўсё ж, ствараючы ідалаў, чалавек сам жа заўсёды развенчваў і знішчаў іх.

Дружа мой, я дзялюся з табою ўражаннямі і думкамі, выкліканымі не адной паэмай «Яго вялікасць», а паэмамі, што ўтварылі цэлы цыкл тваіх твораў, з'яднаных гэтай адной галоўнай ідэяй, агульным эмацыянальным настроем. Акрамя «Яго вялікасці», гэта — і «Маналог зямлі», і «Айкумена», дзе ўзрушанасць, устрывожанасць думкі дасягаюць у цябе вельмі высокага пафасу.

Тэарэтыкі паэзіі, спрачаючыся між сабою, і дагэтуль любяць спасылацца на неабвержны аўтарытэт Пушкіна, які калісьці выказаў рэзка супроцьлеглыя меркаванні, якой ёй, паэзіі, належыць быць: «паэзія, як ніводзін іншы жанр, патрабуе думак, думак і думак» і «паэзія, даруй госпадзі, павінна быць дурнаватай!».

У беларускай літаратуры Аляксей Русецкі адзін з самых інтэлектуальных паэтаў. Насычанасць твайго радка думкай падчас ставілася табе ў дакор. Цябе ўпікалі за разважлівасць, за рацыяналістычнасць. Як жа нам быць, Аляксей Сцяпанавіч, з другой парадай вялікага Пушкіна? Магчыма, тут менш за ўсё варта непакоіцца. Ва ўсе часы хапала, хапае і ў нашы дні паэтаў, што разумеюць вясёлы запавет не ў яго метафарычным, а ў літаральным сэнсе.

Сам жа вечна жывы класік, той, хто даваў сваім нашчадкам такія, здавалася б, несумяшчальныя парады, на прыкладзе ўласнай творчасці бліскуча сцвярджаў, што часам не варта абмінаць і не вельмі разумных аб'ектаў сваёй увагі. Як багатай жывой натуры, яму не было чужым нішто чалавечае: ні пакуты, ні вясёлая прыгода-забава, ні жартаўлівы каламбур, ні экспромт у альбом правінцыяльнай паненкі.

Для большасці чытачоў беларускай паэзіі Аляксей Русецкі ў асноўным — аўтар паэм, узрушаных, трывожных маналогаў аб лёсе планеты Зямля і яго вялікасці Чалавека.

Чалавек з вялікай літары, асоба — вось асяродак галоўных тваіх развагі, якія стымулююць самы шырокі абсяг думак і чытача, кожнага, хто сочыць за тваёй творчасцю.

Чалавек, асоба, індывідуальнасць расце, удасканальваецца, набываючы ўсё большае значэнне, пакуль жыве, творыць дзеля шчасця людзей, грамадства. Самае жахлівае, калі асоба ператвараецца ў абранніка-ідала, у рэлігійны культ, а людзі — у яго ахвяр, фанатыкаў і рабоў. Не магу не аддаць належнае грамадзянскай сталасці тваёй думкі, якую ты так адкрыта выказаў у паэме «Яго вялікасць», напісанай і надрукаванай чвэрць стагоддзя таму назад:

...Яшчэ гарэць нам доўга з году ў год;
і мы чакалі зноў ліхой часіны,
гатовыя супроць любых грымот
стаць з наймудрэйшым фронтам зноў адзіным.
Аб чым ужо ён трызніў уначы,
чаму ўзнаўляў ён прывід змоў і здрады —
ці ведаць нам?
А хто ж тады і чым
яго руку спыніць мог — сілу ўлады!
З праклёнам колькі крэслілі імён
у сэрцы мы сваім і на паперы...
Мы блізкім насцярожваліся верыць,
мы верылі ўсяму, што кажа ён.

Цэлая эпоха, названая «культам асобы», самая змрочная і неспрыяльная для выяўлення і раскрыцця духоўных сіл і здольнасцей асобы чалавека. Нядзіва, што спаралізаваныя страхам ахвяравання самім жыццём перад свяшчэнным алтаром культавага ідалішча яшчэ доўгія-доўгія гады мы ніяк не маглі ажыць душою. І самы востры дэфіцыт асобы чалавека не менш доўга адчуваўся і ў гады так званага застою, духоўнага спусташэння ў грамадстве, ды адчуваецца яшчэ і цяпер у сваіх многіх і самых разнастайных праявах.

Услед за тваімі развагамі шукаю адказу, даходзячы ажно да такога раптоўнага радаснага азарэння: а што, калі асоба-адзінка, нарэшце, страціла ўладу над людской супольнасцю, страціла ўсякае права вызначаць, загадваць, як яму жыць і распараджацца сваім лёсам? Ці не яны — адзінкі, асобы, тыраны і заваёўнікі, ідэалісты і авантурысты і былі вечнымі прычынамі драм і трагедый, катаклізмаў і катастроф, што на кавалкі рвалі жывое цела чалавецтва?

Асобы-адзінкі нібыта рухалі ўяўны грамадскі прагрэс, які часта ў сваёй сутнасці і быў няспыннай вайной эгаістычных амбіцый. Апафеоз апошняй перамогі, рубікон, да якога падышоў чалавек, можа стаць яго апошняй трагедыяй.

Як лёгка тут ухапіць нас з табою за руку артадоксам, дзяжурным ахоўнікам кананізаваных і забетаніраваных імі навечна догматаў веры! Ухапіць і абвінаваціць у бяскласавым падыходзе да гісторыі, тым больш — у так званым абстрактным гуманізме, ігнаруючы самую агульнагуманную аснову марксісцка-ленінскай навукі, сіла якой перш за ўсё ў тым, што яна мае значэнне не толькі для асобных класаў або дзяржаў, але і для ўсёй сусветнай супольнасці. Ніхто іншы, як Ленін, сцвярджаў, што інтарэсы грамадскага развіцця вышэй інтарэсаў любога класа. Ленінская канцэпцыя набывае асаблівае значэнне сягоння, калі сапраўды гаворка ідзе аб выжыванні чалавецтва. Вось чаму сягоння вышэйшым класавым інтарэсам для сацыялізму з'яўляецца ўратаванне цывілізацыі.

Хто яе ўратуе? Адзінкі — эгаістычныя авантурысты ці святыя праведнікі? Ні тыя, ні другія.

Як відно з усяго ходу падзей, самы важкі голас і сілу набывае людства, якое адно можа супроцьстаяць эгаізму адзінак. Знішчыць усё жывое на планеце Зямля ў імя чаго? Каб узяла верх догма або ідэя адной асобы — такой ахвяры ніколі не дапусціць, не можа дапусціць агульналюдскі розум...

Прызнаюся табе, дружа, што, перачытаўшы ўжо вядомыя мне паэмы, як ніколі абрадаваўся я тваёй сёлетняй кнізе «Хвала жыццю». Большасць вершаў, дагэтуль невядомых мне, сталіся нечаканасцю, адкрыццём іншага, новага Аляксея Русецкага, які ў свае семдзесят пяць дасягнуў, можа быць, сваёй найвышэйшай сталасці паэта-лірыка, што выдатна спалучыў яснасць рэальнай зямной думкі з пачуццём, засведчаным натуральнасцю перажытай праўды.

З блізкай і так зразумелай мне горкай іроніяй чытаю пачатак «Грамадзяніна Верша»:

Добры дзень, мой працавіты Верш,
як здароўе, дружа, як жывеш?
Тонкі вус твой русы пасівеў,
выцвіў твой скарынінскі берэт,
а пашаны быццам бы няма,
хіба жыў ляніва, жыў дарма,
і нідзе ўжо не відзён твой след,
актывіст былы насценгазет?

Як бы гэтым вось уступам пачынаеш ты размову аб самым запаветным, аб пройдзеным — ці так жыў, ці зрабіў што вартае для людзей, бо ў гэтым жа сэнс і прызначэнне абранай жыццёвай дарогі. Нядзіва, што з такой бескампраміснасцю, на грані духоўнага максімалізму і з такой дасканаласцю напісаны і «Дзівосы верша», і «Іх постаці», і «Пасланне спакойным паэтам».

На самай вострай душэўнай грані гучаць твае новыя вершы, сапраўды новыя па сваёй грамадскай сутнасці. І не толькі як водгукі на сучасныя падзеі і трывогі свету, але і на свае ўласныя. Ведаючы тваё асабістае гора, страту самага блізкага чалавека, не мог не скалануцца сэрцам, натрапіўшы вось на гэтыя ўсяго трынаццаць радкоў:

Начная цішыня звініць,
звініць няспынна мне ў самоце,
не рвецца на высокай ноце
яе пранізлівая ніць.

Знікае палахлівы сон,
зноў пазірае ў вочы гора,
і прабіваецца праз морак
прыблудны знекуль тэлезвон.

Пакута гэтая даўно,
о, як знаёма, як вядома!
Увечары ідзеш дадому,
на чорнае глядзіш акно...
Не ўспыхне болей мне яно.

Дарагі Алёша, як бы я хацеў не толькі пералічыць — пералічэнне нічога нікому не скажа, а перапісаць тут радок у радок усе вершы, якія так прывабілі мяне хараством думкі і дасканаласцю, дасягнуць якіх, ведаю, ой не так лёгка. Тут і абсалютная незалежнасць ад ужо вядомых традыцый, дзе па інерцыі самі лезуць у радок звычныя слыху рыфмы, эпітэты. Я думаю, што пераадоленню многіх умоўнасцей табе вельмі спрыяе твая даўняя чуйнасць да сучаснай лексікі, самы актыўны каэфіцыент якой заўсёды арганічна і натуральна ўваходзіў у кантэкст твайго радка.

Сам з першых спроб у вершаскладанні залежны ад уплыву народнай песні, я заўсёды дзівіўся твайму вопыту, вельмі адметнаму ад вопыту іншых. Ты адзін з нямногіх, каго нейкім чынам зусім абмінула залежнасць ад фальклорнай арнаментыкі. Сучасная жывая лексіка давала і дае твайму паэтычнаму радку, такому строгаму і ашчаднаму ў сродках, не толькі новыя фанетычныя фарбы, але часта і самі тэмы, і сюжэты. Сапраўды, стыль — гэта чалавек, як заўважыў яшчэ ў XVIII стагоддзі славуты французскі даследчык прыроды Жорж Бюфон. Таму, напэўна, твой вопыт, твой стыль — гэта і твая біяграфія, яе абсягі і далягляды, змалку, як у многіх з нас, вызначаныя вёскай, а ў тваім юнацтве настолькі раптам змененыя і пашыраныя, што толькі глядзі і набірайся ўражанняў: вучоба ў Маскве, праца па спецыяльнасці бактэрыёлага ў рэспубліках Сярэдняй Азіі, у Сібіры, а ў часе вайны — у Манголіі, у Кітаі, Японіі. Усё гэта, натуральна, не магло абмінуць старонак тваіх кніг.

Вось пераможны май 1945 года.

Зямля марнела б ад былых нягод,
каб не ўбірала сокі, фарбы мая,
як ён з глыбокіх зерневых дрымот
раллю зялёным пер'ем прабівае;
як на галлі са скручаных вузлоў
ён выпірае, шырыцца ў паветры,
дрыжыць празрыстым лісцем, бы святло
спіртовых, лёгкіх аганькоў на ветры...

Так перамог любімы твой дэвіз, два колеры бясконцага жыцця — зялёны і чырвоны! І будуць перамагаць заўсёды.

Мой даўні і верны друг, ты заўважаеш, што ў апошнія часы ўсё болей павялічваецца цікавасць да размовы вялікай аўдыторыі сам-насам з субяседнікам. Гэтаму навучыў нас наш самы актыўны штодзённы партнёр — тэлевізар. Але яго непасрэдным папярэднікам і канкурэнтам была і будзе кніга, быў аўтар з яго творам. З яго старонак, як цяпер з экрана Астанкіна, высвечвае кожнае яго слова, і сам аўтар увесь як на далоні відзён. Кожная наша кніга — наша Астанкіна, наша выпрабаванне і на адваротную сувязь і водгук. Вось і я, перачытаўшы твае кнігі, шлю табе гэты ліст у баравы, ужо зімовы лес, дзе ў свае юбілейныя дні ты пішаш новую паэму. Спадзяюся, што і яна будзе на вышыні ўжо створанага табой у нашай паэзіі.

Усе мы служым ёй, Паэзіі. Розныя па ўзросту, па характарах, па вопыту, усе роўныя перад ёю. Яна ж адна заўсёды вышэйшая за ўсіх нас. І толькі той, хто, ідучы да яе на запаветную споведзь, не можа ні ў чым пакрывіць душою, той і ёсць яе сапраўдны вернападданы.

Шчыра зычу табе творчага шчасця!

Васіль ВІТКА.

СТО РАДКОЎ ПАСЛЯ ПРЭМ'ЕРЫ

# НЕАБХОДНЫ СЁННЯ

## МЕРКАВАННЕ ГЛЕДАЧА

*«Марутка» («Сны чырвонай Юліі») С. Алексіевіч. Рэжысёр — У. Караткевіч. Мастак — Л. Герлаван. Кампазітар — С. Бельцюкой.*

*Рэспубліканскі тэатр юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі.*

З кнігамі і спектаклямі па творах С. Алексіевіч я знаёма даўно. Новы спектакль ТЮГа «Марутка» паводле яе п'есы, таксама заснаваны на дакументальных сведчаннях людзей, якія перажылі вельмі складаны даваенны і пасляваенны час, і распавядае пра тое, як гэты час адбіўся на нас — дзецях і ўнуках тых, хто яго перажыў...

Зала захоплена развіццём дзеяння на сцэне. Асабліва ўражвае лёс і характар галоўнай гераіні — Юліі Паўлаўны, ролю якой выконвае Р. Маленчанка. Лёс яе трагічны... Мяне, гледача, ён літаральна ўзрушыў.

Узрушвае і ігра актрысы Л. Горцавай, якая выконвае ролю нявесткі Ірыны Канстанцінаўны. Сучасная жорсткая драпежніца бязлітасна патрабуе здаць пенсіянерку-свякруху ў дом пенсіянераў і робіць гэта не без абаяльнасці.

Муж Ірыны Канстанцінаўны — Акцябр, ролю якога выконвае А. Курловіч, — чалавек бязвольны і бесхарактарны... У «пошуках сябе» — маладая пара (А. Сідорчык і С. Навуменка). «За кулісамі» ёсць яшчэ адзін персанаж — Міша, былы муж Юліі Паўлаўны. З напружаннем чакаем мы яго з'яўлення на сцэне, але... Ён адмаўляецца ўбачыцца з жонкай і сынам...

«Марутка», Р. МАЛЕНЧАНКА (Юлія Паўлаўна) і Л. ГОРЦАВА (Ірына Канстанцінаўна).
Фота Ул. КРУКА.

Сведчанне таго, што малады глядач прыняў спектакль я адкрыццё, — цішыня ў глядзельнай зале ТЮГа, заўсёды шумнай і вясёлай. Падзеі на сцэне час ад часу перапыняліся апладысментамі.

Спектакль — адкрыццё! Гэта мы спазналі пад час абмеркавання з выказваннямі маці воіна, які загінуў у Афганістане, студэнтаў ВГІКА, пісьменнікаў А. Вольскага і С. Грахоўскага. Запамінаюцца словы, сказаныя С. Алексіевіч: «Усе мы з мінулага. Асноўная прычына тых трагічных падзей — страх, які ўвайшоў у нас генетычна».

Дык што гэта было? Масавы псіхоз? І ці ва ўсім вінаваты адзін Сталін? Як у кожнай сям'і магла працаваць машына страху?

Спектакль спрабуе аналізаваць прычыны. Спектакль — той дыялог, які трэба весці цяпер з маладым гледачом, каб разняволіць яго розум.

Але вось што мяне здзівіла: шмат хто з гаспадароў тэатра, беручы ўдзел у абмеркаванні, настолькі зняважліва ставіўся да гледачоў, што адзін з гасцей нават папрасіў: «Шаноўныя гаспадары, дайце ж выказацца!»

Пасля абмеркавання ў мяне засталося ўражанне, што я пабыла на трэцяй дзеі спектакля. Залу літаральна захліснулі нейкія дзіўныя непаразуменні (па ўсім, відаць, унутрытэатральныя і не сказаць, каб творчыя). Я, глядачка, адчула, што абмеркаванне вядзецца быццам і на тэму спектакля, але не пра сам спектакль...

Не буду сцвярджаць, што п'еса і сцэнічны твор — сама дасканаласць. Але першы прагляд паказаў, што такія спектаклі неабходны. Яны памагаюць разабрацца ў складаных пытаннях нашага мінулага. І не толькі маюць права на існаванне, а проста неабходны. І менавіта сёння.

Іна КАЗЛОВА,
настаўніца.

г. Мінск.

ПЕРАКЛАДЫ

# «І ЎСЁ ГЭТА ЁСЦЬ МІР»

## ВЕРШЫ АМЕРЫКАНСКІХ ПАЭТАЎ

**Восенню 1984 года ў складзе дэлегацыі Беларусі на Генеральнай Асамблеі ААН на працягу амаль трох месяцаў давялося мне быць у Нью-Йорку. Шмат уражанняў і думак...**

**Ці ёсць у вялікім амерыканскім народзе духоўныя сілы, здольныя супрацьстаяць жорсткасці, сквапнасці, бездухоўнасці! Ці ёсць у ім сілы, здольныя вывесці са стану духоўнага, маральнага выраджэння, што навязвае сотням мільёнаў амерыканцаў усяго некалькі тысяч «тлустых» у імя новых мільёнаў ды мільярдаў!**

**Калі я прачытаў адну з апошніх амерыканскіх анталогій найбольш выдатных паэтычных твораў апошніх год, я зразумеў: такія сілы ў гэтай вялікай нацыі, на шчасце, ёсць. Маюцца яны, канечне, і ў палітыцы, і ў навуцы, і ў грамадскіх рухах і нават у галіне вялікага бізнесу, але найбольш у прагрэсіўным мастацтве. Менавіта тут залягаюць глыбінныя плыні яго духоўнай культуры, яго маральнага здароўя.**

**Прапаную чытачу нізку вершаў з сучаснай амерыканскай паэзіі.**

**Лявон ЯЎМЕНАЎ.**

**Джон Н. МОРРЫС**

### Мір

Дзіця нахілілася
Над аркушам паперы
З алоўкам у руцэ.
Відаць, малюе.
Ці ў роздуме пра тое,
Што намаляваць.
А мо яно піша?
Піша ці малюе...
Лета і сябе
На беразе
Сіняга мора...

Яно піша і малюе
Такое ж самае дзіця,
Нахіленае
Над аркушам паперы...
Дзіця, якое ўжо намалявала
І лета, і мора...
І ўсё гэта ёсць мір.
Мір — гэта тое,
Што яно піша,
Ці, можа быць, малюе.
Мір — гэта маляванне і пісьмо.
А можа, гэта дзіця?
Дзіця і лета, і мора?..

**В. МЕРВІН**

### На захадзе сонца пасля дажджу

Не чуе хмара
Зямное скаргі.
Імгненне кожнае,
Што брама,
Якую нам з табой
Не адчыніць.

Куды б задумлівы
Ні крочыў,
Дажджу
Жывая ручаіна
Да сэрца дакранаецца
Майго.

Кладзецца цемра
Аглухлай ночы.
Усё — азяблае наўкола:
Не верацъ зоры
Адна
Адной...

**Давід ВАГОНЕР**

### Словы

Вецер, птушкі і дрэвы,
Вада, шкло і святло:
Што б я ні пісаў,
Год за годам
Гэтыя словы
Лятуць ізноў у свет.

У маім доме
Шмат паверхаў,
Як лугоў ля рэчак,
Як ветру вольнага
У жытнім полі,
Ці думак у галаве,
Што як гнёзды на веццi —
Каб можна было забыцца...

Сюды я бяру
Святло, што б'ецца
Аб глыжы даўніны,
Вецер, што блазнуе
З хвалямі мора,
Высокія травы,
Што свіцяцца між дрэў,—
І нібы ў вырай
Выпускаю
Заўсёды юныя
Старыя словы.

**Марк Ван ДОРЭН**

●

Марудна прыходзіць
Мудрасць:
Залаты пыл апоўдні
Дзесьці між сонцам і мглою.
Часам гэтакі блізкі,
Што магу да яго
Дакрануцца.
Рана ў свеце
Ці позна,
Ён заўсёды струменіць
У мроку...

Млечным шляхам
На доўгія мілі
Расхінуўся,
Плыве па бяссмерці
Дыван залаты.
Не малы й не вялікі.
Але я магу
Расцягнуцца на ім
Паміж зямлёю і небам
І ўведаць тое,
Чаго ніхто не знаў
Да мяне.

І тады я ўсім раскажу
Гэтак добра, як змагу,
Пра таямніцу
Нашага дзівоснага кутка:
Павуцінка жыцця —
Старая і грацыёзная,
Яна гэткая доўгая,
Што яе хопіць
Агарнуць сусвет,
Але яна
Такая
Тоненькая!..

**Д. ДАВІ**

### Восень у мроях

У нашым каханні
Ёсць шолахі і трымценне
Восені —
Апошняе празрыстае адзенне...
Скінем яго?!
Скінь яго...
З бярэзіны струменіць
Золата.
Мы — дрэвы,
Што скідваюць
Лістоту.
Мы старэем...

Няма больш часу
Марудзіць.
І хоць мы адкладваем
Напотым
Нараджэнне дзяцей,
Наша восень — сёння.
Аддай мне сваю цеплыню,
Аддай мне сваё каханне!?
У позню шлюбную ноч
Трымцелі
Колеры восені.

**Грэг КУЗМА**

### Паэзія

Старыя формы,
Падобныя на пустыя гнёзды.
Яны пераўтвараюцца ў домікі
Пасля таго,
Як іх заселяць.
Толькі мала якія птушкі
Могуць залящець туды,
А галоўнае
Вылецець адтуль...
Потым у свет нясуцца гукі.
Здавалася б,
Адны і тыя ж...
Але жыхары домікаў
Прапускаюць іх
Праз сэрцы. —
І яны існуюць
Кожны на свой манер.
Менавіта тады
Мы пачынаем
Уважліва прыслухоўвацца
Да галасоў.
І чутны яны
Усяму свету.

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# Пісьменнік едзе за мяжу...

«Круглы стол» «Слова — дружбы і праўды вястун: творчыя вынікі замежных паездак — паэзія і публіцыстыка» быў арганізаваны Саюзам пісьменнікаў сумесна з Таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

Такая тэма выбрана невыпадкова. Беларускія літаратары даўно выязджаюць за мяжу як у складзе афіцыйных дэлегацый, прымаючы ўдзел у рабоце чарговых сесій Генеральнай Асамблеі ААН, так і па лініі Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, па камандзіроўках СП. Калі акінуць вокам плён гэтых камандзіровак, дык можна назваць нямала твораў, што трывала прапісаліся ў літаратуры. Найперш — паэтычныя цыклы і падборкі, а таксама пісьменніцкая публіцыстыка.

На гэтым і засяродзіў увагу прысутных, адкрываючы пасяджэнне «круглага стала», сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР **В. Зуёнак.** Ён падкрэсліў, што падобныя паездкі для літаратараў павінны стаць традыцыйнымі і праводзіцца часцей, бо шмат даюць назіранняў, падказваюць новыя тэмы, актывізуюць публіцыстычную дзейнасць.

З гэтай думкай пагадзіўся і **Максім Танк.** Ён закрануў і іншыя аспекты праблемы. Зразумела, зазначыў народны паэт, паездкі ў складзе афіцыйных дэлегацый карысныя, але асаблівы плён дае працяглае знаходжанне літаратара ў іншай краіне. У якасці прыкладу ён спаслаўся на гісторыю ўзнікнення «Іранскага дзённіка» П. Панчанкі. М. Танк гаварыў і аб плённасці асабістых кантактаў літаратараў розных краін, што таксама садзейнічае тэматычнаму пашырэнню літаратуры, узаемаўзбагачэнню нацыянальных літаратур.

**Н. Гілевіч,** называючы «Іранскі дзённік» П. Панчанкі, эсэістыку Я. Брыля, што з'явілася вынікам паездкі аўтара ў Індыю і стала гонарам нашай літаратуры; прыгадваючы творы М. Лынькова, М. Лужаніна, Г. Бураўкіна, Р. Барадуліна, К. Кірэенкі, В. Карамазава і іншых пісьменнікаў, падкрэсліў, што за рэдкім выключэннем паездка за мяжу не толькі не застаецца без следу. але часам пакідае і вельмі значны след. Асаблівая аддача назіраецца тады, калі едзе за мяжу літаратар сацыяльна актыўны, паграмадзянску настроены. Разам з тым, Н. Гілевіч з трывогай канстатаваў, што, на жаль, на замежным матэрыяле вельмі мала пішацца кніг для дзяцей і моладзі. Можна назваць хіба што творы В. Вольскага, Г. Васілеўскай, прыгадаць раман «Амок» Я. Маўра, некаторыя яго апавяданні. Аўтар іх хоць і не выязджаў у іншыя краіны, але дзякуючы свайму таленту, эрудыцыі здолеў расказаць пра жыццё ў іх праўдзіва і пераканаўча, быццам неаднойчы там бываў. Калі б у нас пабольшала такіх кніг для дзяцей і моладзі, развіваў сваю думку Н. Гілевіч далей, мы толькі б выйгралі ў справе выхавання падрастаючага пакалення, перш за ўсё ў справе інтэрнацыянальнага выхавання. Праўда, працягваў прамоўца, нельга не сказаць, што поруч з цікавымі, значнымі творамі на замежным матэрыяле часам з'яўляюцца і павярхоўна напісаныя, пазбаўленыя праблемнага аналізу. У падобных публікацыях няма філасофіі, заглыбленасці, а яшчэ — прывязанасці матэрыялу да нашага паўсядзённага жыцця, да гісторыі беларускага народа.

На думку **Янкі Брыля,** замежнымі паездкамі неабходна «лячыць» моладзь ад сляпога захаплення ўсім зарубежным, ад нізкапаклонства перад Захадам. Пісьменнік прыгадаў свае ўражанні ад падарожжаў з М. Танкам вакол Еўропы, з П. Панчанкам у Канаду і Польшчу... Паездкі такія, зазначыў Я. Брыль, вельмі карысныя, бо пашыраюць кругагляд, прымушаюць іншымі вачыма глядзець на жыццё ў замежных краінах. Пазнаванне свету, якое адбываецца пад час іх, пазбаўляе наіўнасці, пашырае кругагляд. Гаворачы пра мастацкія вартасці твораў, што з'яўляюцца пасля такіх камандзіровак, прамоўца адзначаў і павярхоўнасць, трафарэтнасць асобных публікацый. У сваім выступленні Я. Брыль закрануў і праблему забеспячэння беларускімі кнігамі, іншымі выданнямі тых, хто за мяжой вывучае беларускую мову і літаратуру. Найперш ён звярнуў увагу на становішча, якое склалася на Беласточчыне. Там працуюць беларускія школы, ліцэі, і Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі магло б пасадзейнічаць, каб туды пасылаліся кнігі, падручнікі.

Пісьменнікі павінны выязджаць за мяжу часцей, у гэтым сумнення быць не можа, але, як зазначыў **В. Карамазаў,** куды лепш было, калі б такія паездкі сталі больш рэгулярнымі. Што датычыць творчай аддачы, то паездкі даюць шмат тады, калі ў іх прымаюць удзел людзі неабыякавыя, здольныя ўбачыць і адчуць найбольш істотнае і характэрнае ў жыцці іншых краін, іншых народаў. Увогуле праца над творамі, што з'яўляюцца пасля паездак, сказаў В. Карамазаў, патрабуе вялікай унутранай душэўнай работы. Толькі ў такім разе яны маюць права на жыццё.

Дзелячыся ўражаннямі ад наведвання Злучаных Штатаў Амерыкі, **У. Карызна** закрануў і такое пытанне, як пачуццё савецкай годнасці тых, хто выязджае за мяжу, адзначаў, што сляпое захапленне ўсім замежным, што дае знаць у некаторых творах, павінна саступіць месца цвярозым ацэнкам чужога жыцця.

Перабудова, якая працягваецца ў жыцці савецкага грамадства, сказаў **П. Макаль,** павінна закрануць і такую сферу, як паездкі пісьменнікаў за мяжу. У Саюзе пісьменнікаў СССР ёсць замежная камісія, у некаторых саюзных рэспубліках таксама створана нешта падобнае. Добра было б, каб такая камісія была створана і ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

**В. Рагойша** зазначыў, што нямала даюць паездкі за мяжу не толькі празаікам і паэтам, але і літаратуразнаўцам, гісторыкам літаратуры. Ён спаслаўся, у прыватнасці, на паездку ў Англію — А. Мальдзіса, пасля якой з'явіліся цікавыя публікацыі.

Як і некаторыя іншыя прамоўцы, **В. Нікіфаровіч** прапанаваў актывізаваць дзейнасць Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі па забеспячэнню замежных перакладчыкаў з беларускай мовы неабходнай літаратурай, перыядычнымі выданнямі.

Рэферэнт па кнігаабмену Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі **Л. Каравайка** расказаў аб мерах, якія прымаюцца таварыствам у гэтым кірунку, гаварыў аб сваіх сустрэчах з суайчыннікамі за мяжой.

Вынікі гаворкі падвёў В. Зуёнак.

**Наш кар.**

## «МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ» № 11

**Адкрывае нумар артыкул Я. Бабосава «Рэвалюцыі духоўныя здабыткі».**

**Гісторыка-рэвалюцыйнай тэматыцы ў беларускім мастацтве прысвечаны матэрыялы У. Рынкевіча («Сцвярджаючы нацыянальную своеасаблівасць»), Р. Смольскага («Нараджэнне новага свету»), Н. Фральцовай («Да высокай праўды»).**

**Аб ролі кінамастацтва ў фарміраванні палітычных поглядаў і грамадзянскай пазіцыі асобы разважаюць У. Мацвееў і Ю. Новікаў («Выхоўваць патрыёта, грамадзяніна»). Вобраз камуніста ў беларускім кіно раскрывае Е. Бондарава («Вера ім крылы давала»).**

**Пра беларускі палітычны плакат, супрацоўніцтва калектываў мастацкай самадзейнасці БССР і ГДР, пра тэатралізаванае прадстаўленне, мастацкае афармленне кніг беларускага першадрукара, пра народнага майстра аплікацыі расказваюць А. Атраховіч («Плакат-змагар»), А. Рэзнік («Шляхамі дружбы»), Д. Падбярэзкі («Свята стартавала ў Мінску»), Я. Неміроўскі («Тыпаграфіка скарынаўскіх выданняў»), Я. Сахута («Сонечныя ўзоры»).**

**Тэатральнаму, музычнаму і мастацкаму жыццю прысвечаны публікацыі Г. Коласа («Паэзія і проза сцэны»), А. Байкалава («У люстэрку трыенале»), Г. Ермачэнкава («На новым этапе»), Р. Аладавай («Опера буйным планам»), А. Ціхановіч («...Будзе песня!»).**

**Пра дзеячаў беларускай культуры пішуць В. Сіэко («Сакрэты Рыгора Шырмы»), П. Васілеўскі («Кроплі зорнага дажджу»), Т. Салаўёва («Саюз творчасці, таленту, майстэрства»),**

**Ёсць «Старонкі календара» і «Хроніка мастацкага жыцця».**

ПА ЗАКОНАХ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМУ

# Піша паэт паэту...

### Змешчана ў «Братэрстве»-87

**Інтэрнацыянальнае і нацыянальнае. Як многа сёння мы гаворым пра гэта! Здаецца, яшчэ са школы ведаем, што да агульначалавечага можна прыйсці толькі праз нацыянальнае. І ўсё ж...**

**На працягу стагоддзяў дружба паміж народамі вызначалася канкрэтнымі справамі, а не гучнымі словамі. І сапраўдным інтэрнацыяналістам можна назваць, напрыклад, і класіка армянскай літаратуры Саят-Наву, які яшчэ ў XVIII стагоддзі працаваў на ніве не толькі армянскай, але і грузінскай, і азербайджанскай культур.**

**«Сапраўдны інтэрнацыяналізм сваёй перадумовай мае павагу аднаго народа да другога і абарону яго. Тады чалавек, які сустрэне другога, будзе радавацца і захапляцца прыгажосцю і талентам яго». Гэтыя словы вядомага латышскага паэта Яніса Петэрса прыгадаліся мне, калі чытала невялікую публікацыю ў літаратурным зборніку «Братэрства-87». Гэта нататкі-ўспаміны народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі пра яго «дарагіх сяброў, якіх ужо няма сярод нас, пра трох народных паэтаў Латвіі: пра Яна Судрабкална, Мірдзу Кемпе і Ояра Вацыецiса».**

**Расказваючы пра «моцнага, плячыстага, спакойнага, сапраўднага латышскага стралка» Яна Судрабкална, П. Панчанка вылучае ў яго, акрамя вялікага таленту і шырокай эрудыцыі, яшчэ адну вельмі прывабную рысу: «абсалютную адсутнасць нацыянальнай абмежаванасці».**

**Нацыянальная абмежаванасць адсутнічае і ў аднаго з самых нацыянальных паэтаў сучаснай Беларусі — П. Панчанкі. І менавіта таму з такой любоўю і захапленнем, з такой чалавечай павагай і разуменнем можа гаварыць ён, сапраўдны інтэрнацыяналіст, беларус, пра сваіх незабыўных латышскіх сяброў. Ёсць нешта сімвалічнае, што літаратура братняй Латвіі паўстае перад намі ва ўспамінах П. Панчанкі ў вобразах інтэлігентнага і мудрага Яна Судрабкална, па-жаночаму далікатнай і імпульсіўнай Мірдзы Кемпе і маладога Ояра Вацыецiса, «паэта з геніяльнымі задаткамі».**

**«Дарагі Пімен, а якая вясна ідзе,..—пісаў Ояр Вацыецiс у адным са сваіх лістоў да Панчанкі.— Дні тры ў нас моцна раставала, сёння — вясновая завея. У нас гэтую завею называюць «жаўруковай завеяй». Добра, праўда? Гэта завея, якую ўжо бачаць і ў якой мерзнуць жаўрукі». Пісаў, нібы прадчуваючы ўласны лёс, бо і сам ён быў тым жаўранкам—як і кожны сапраўдны паэт,—якому не знесці халодную завею.**

**Лісты латышскіх сяброў, якія арганічна ўліліся ў плынь успамінаў П. Панчанкі, распавядаюць не толькі пра іх лёс і творчыя памкненні, пра іх любоў і зацікаўленасць Беларуссю і нашай літаратурай, яны ў нейкай ступені дапамагаюць яшчэ і лепш зразумець асобу і паэзію самога П. Панчанкі.**

**«Твае вершы такія ж, як ты сам: у іх гучыць твая глыбокая сардэчнасць, душэўная мяккасць і разам з тым ёсць у іх нешта непахіснае, таксама твая тонкая іронія, своеасаблівы сонечны гумар... І калі ты плачаш, Пімен, дык нагадваеш анёла. Так добра, што чалавек харошы! Гэтак мала добрых людзей». Гэта радкі з ліста Мірдзы Кемпе. Так мог напісаць толькі паэт, да таго ж сапраўдны паэт і сапраўдны сябра.**

**І яшчэ... «Ваша пісьмо прывяло мяне ў доўгачасовае захапленне. І зразумейце, дарагі Пімен, што не з-за кампліментаў (калі ўжо зусім даверліва, дык з-за іх толькі ледзь-ледзь). Кранула тое, што я Вас паважаю, дужа сімпатызую Вам, у Вас нейкая д'ябальская, што горне да сябе, нейкая рыса незразумела прыцягальная». Гэта гаворыць паэт, «чарнявы, прыгожы, хуткавокі і нейкі загадкавы» Ояр Вацыецiс.**

**Як добра, што, падпераЗаныя сіняй Даўгавай-Дзвіной, нашы рэспублікі Беларусь і Латвія нясуць праз вякі агонь нашага братэрства, нашай гістарычнай памяці. І як добра, што падтрымліваюць яго выдатныя паэты Беларусі і Латвіі. Гэта сапраўдны інтэрнацыяналізм, які рэалізуецца ў канкрэтных справах.**

**Галіна ТЫЧКО.**

# ПАХОДНЯ АБУДЖАНАЙ ПАМЯЦІ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).**

у аўтара быў вельмі дарэчы, калі ўлічыць тадышнія спробы афіцыйнай навукі і публіцыстыкі выдаць Скарыну за «истинно русского» першадрукара і падначаліць ягоны аўтарытэт палітычнаму курсу на русіфікацыю беларускага насельніцтва. (Так, папячыцель Віленскай вучэбнай акругі, адзін з ідэолагаў русіфікатарскай палітыкі, «русского дела» царызму ў Паўночна-заходнім краі І. Карнілаў у 1869 г. пісаў з нагоды набыцця Віленскім музеем скарынаўскага «Апостала»: «Трэба, каб выстаўленыя ў вітрынах старадрукі служылі наглядным сведчаннем некалішняга панавання рускай асветы ў мясцовым краі» і што менавіта кніга Скарыны павінна «даказаць і старшынства, і сілу рускай цывілізацыі ў заходніх губернях»).

На жаль, аўтар «Кароткай гісторыі» не пазбег сацыяльнай ідэалізацыі мінулага, класава памылковых трактовак гістарычнага працэсу, яго рэальных супярэчнасцей. І ўсё ж гэта была першая папулярная «Гісторыя» беларуса аб Беларусі, аб краіне, якую тэндэнцыйная польская ці руская гістарыяграфія разглядала як уласную «перыферыйную» частку гісторыі Польшчы альбо Расіі.

Такая «Гісторыя Беларусі» сярод тагачаснага беларускага грамадства не магла не знайсці ўдзячнага чытача. Такім чытачом аказаўся і Янка Купала; — ён прысвяціў аўтару «Гісторыі» верш «Дудар», надрукаваны ў «Нашай Ніве» (1910, № 40).

**Кніга мела яшчэ адну прымету. Яе жыццесцвярджальны пафас, зачэрпнуты з мінулых вякоў, ускосна быў скіраваны супраць змрочнай дарэвалюцыйнай рэчаіснасці і ёю абумоўленага некалі занадта нігілістычнага погляду на мінулае беларускага народа сярод саміх удзельнікаў вызваленчага руху. Вострыя душэўныя пакуты адольвалі праз гэта песімістычнае пачуццё маладога крытыка Сяргея Палуяна, якому нацыянальная гісторыя ўяўлялася суцэльнай шэрай плямай, без «ніводнага яскравага пункта». Можна калі не падтрымаць, то, прынамсі, зразумець і той балюча-безнадзейны папрок, што пад адрасам суайчыннікаў прашапталі прадсмяротныя вусны Палуяна: «Мы былі заўсёды толькі рабы».**

Першая «Гісторыя» беларусаў узрушала, акрыляла сяброў. І, зразумела, раздражняла ворагаў — далакопаў беларушчыны з чарнасоценнага стану. Ананімны крытык з афіцыёзных «Окраин России» атакаваў беларускага аўтара менавіта за акцэнтацыю старадаўняга беларускага пісьменства, паколькі ніякай беларускай мовы, паводле крытыка-шавініста, у мінулым ніколі не існавала. Не мог чарнасоценец дараваць аўтару брак лакейскай угодлівасці перад расійскімі самадзержцамі. «Тут не найдете портретов ни императора Александра II, ни графа П. Н. Муравьева, ни митрополита Иосифа Семашки». Што ж, далакопаў беларускага народа старонкі «Гісторыі» не ўшанавалі. На месцы цароў і царскіх саноўнікаў былі тут іншыя, новыя аблічча — патрыёты сыноў Беларусі: Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, Янкі Лучыны, тых, хто ўвасабляў духоўнае ўваскрашэнне забранай і скалечанай Радзімы.

Амаль адначасна з першай беларускай «Гісторыяй» выходзіць з друку «Беларуская бібліяграфія» Р. Зямкевіча, дзе было прадстаўлена каля 80 старадрукаў XVI—XVIII стст., ад Біблii скарынаўскага перакладу — да «Казанняў», выдадзеных за кошт Францішка Чарнецкага ў Луцку (1798). Праўда, бібліёграф-аматар, відаць, па недасведчанасці перастараўся і залічыў, не ўдакладняючы, да ліку беларускіх шэраг царкоўнаславянскіх, украінскіх альбо ўкраінска-беларускіх выданняў (Астрожская Біблія І. Фёдарава, кнігі Г. Сматрыцкага, К. Транквіліёна, І. Галятоўскага, З. Капысценскага, П. Магілы, Л. Барановіча). Далёкая ад дасканаласці праца Зямкевіча і з боку іншых навукова-бібліяграфічных патрабаванняў. Але ў галоўным публікацыя была беззаганнай: яна ўзнаўляла і ажыўляла панарамную, «паімённую» карціну нацыянальнай кніжнай спадчыны, вартай вывучэння і ўзбагачэння. Скарына, Будны, Кавячынскі, Крышкоўскі, Хадкевіч, Цяпінскі, Мамонічы, Гарабурда, Зізаній, Сматрыцкі, Карповіч, Мужыноўскі... Прозвішчамі слынных продкаў адказвала Беларусь на пытанне пра свой культурна-гістарычны радавод, адкрываючы свету сваё мінулае, пераадольваючы заадно і ўласны «гістарычны» нігілізм. «Бібліяграфія» Зямкевіча была надрукавана ў Календары «Нашай Нівы» на 1910 г., што, як і газета, шырока разыходзіўся па вёсках і мястэчках Беларусі і нават за яе межамі.

Годам раней «Наша Ніва» (1909, № 39) змяшчае спецыяльны артыкул пра Скарыну — «Калі друкавалася першая беларуская «Біблія»?» Публікацыя без подпісу, на думку даследчыкаў, належала С. Палуяну. У артыкуле пададзены кароценькія біяграфічныя звесткі пра першадрукара, яго асветніцкі подзвіг азначаны на паказе тагачаснага культурнага развіцця Чэхіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Латвіі. Наогул беларускі першадрукар успрымаўся публіцыстамі «Нашай Нівы», як сімвал даўніх творчых сувязей беларусаў з рускім, украінскім, чэшскім, польскім, літоўскім народамі. І ў гэтым сэнсе вопыт мінулага закліканы быў дапамагчы ўзаемадзеянню з братнімі народамі на новым гістарычным этапе, лепшаму спалучэнню нацыянальных і агульначалавечых задач маладой беларускай літаратуры.

**З вопыту мінулага выносіла айчынная думка, маладая беларуская інтэлігенцыя скарынаўскія ўрокі грамадскага падзвіжніцтва, пераадольвання сацыяльнай ізаляванасці ад народных патрэб. «Гістарычныя варункі нашага народа,— чытаем у артыкуле з Календара «Нашай Нівы» за 1914 год, — зложыліся так, што, гонячыся за прывілеямі і магнацкай ласкай, пакінула нас наша інтэлігенцыя, гарады таксама страцілі наш, беларускі характар, але беларус заняў зямлю, ён і ёсць той «народ», у каторага ў руках сіла, з мазаля каторага корміцца і горад, і двор, і інтэлігенцыя». Можна папракнуць аўтара за завужанае, «асяляненае» разуменне народа, бо жыццё рухалася, як раней паказала Цётка слыннай «Прысягай над крывавымі разорамі», мазалём і селяніна, і рабочага, і салдата, высілкамі ўсяго эксплуатуемага люду.**

Айчынная кніжная традыцыя адыграла не апошнюю ролю ў канчатковым выбары адроджаным беларускім друкам адзінага, пасля паралельнага карыстання «гражданкай» і «лацінкай», шрыфту. У дыскусіі па гэтым пытанні, праведзенай «Нашай Нівай» у 1912 г., важкае слова ў падтрымку кірылічнага шрыфту сказаў Янка Купала. Вопытам мінулага ўзмацняў паэт аргументы на карысць вяртання да літараў, «якімі суджана было друкавацца першай беларускай свецкай кніжцы — Статуту Літоўскаму».

Нельга прамінуць краязнаўча-арганізатарскай працы беларускай газеты. У сабранай пры рэдакцыі «Нашай Нівы» калекцыі Луцкевіча знаходзіліся унікальныя старадрукі — «Трыедзь каляровая» Швайпольта Фіеля (1491), частка (70 старонак) Біблii Скарыны, Статут Вялікага княства Літоўскага (1588), Вучыцельскае евангелле (1618) і іншыя. Калекцыя склала аснову першага грамадскага Беларускага музея ў Вільні (1921—1941 гг.). З набыткамі-памяткамі непасрэдна знаёміліся Янка Купала, М. Багдановіч, З. Бядуля, Ц. Гартны, К. Буйло, М. Гарэцкі, Я. Драздовіч, пазней, у 20—30-я гады — П. Сергіевіч, Максім Танк, М. Машара, Л. Геніюш; усе яны прама ці апасродкавана звярталіся да скарынаўскай тэмы, гістарычна - духоўнай спадчыны народа.

Вядома таксама аб намаганнях нашаніўскіх дзеячаў заснаваць навуковае таварыства імя Францішка Скарыны, запісацца да якога і падрыхтаваць жыццеапісанне першадрукара выказаў гатоўнасць М. Багдановіч у лісце да рэдакцыі «Нашай Нівы» ад 21 кастрычніка 1913 г. Тут жа, у нашаніўскім асяроддзі, сумесна з выдавецкай суполкай «Загляне сонца...» выдаецца (не пазней 1915 г.) паштоўка «Доктар Францішак Скарына» ў гонар 400-годдзя беларускага друку. На адной з такіх паштовак-цыдулак, як іх тады называлі, сакратар «Нашай Нівы» пісаў Язэпу Драздовічу на станцыю Лужкі, на Віцебшчыну 30 мая 1915 г.: «Даражэнькі паночку, ...ці не ўзяліся б Вы нарысаваць у вялікім фармаце партрэт Ф. Скарыны з гэтай цыдулькі?» Магчыма Драздовіч і стаў выканаўцам унікальнага, добравядомага сёння малюнкавага вобраза беларускага першадрукара — мастацкай работы дасюль невядомага аўтара? Прыкладна ў тым самым часе Драздовіч вылепіў з гіпсу партрэт першадрукара і падараваў беларускай кнігарні ў Полацку, якую па даручэнню «Нашай Нівы» вяла К. Буйло. Скарынаўскі вобраз будзе спадарожнічаць Язэпу Драздовічу праз усё жыццё, натхняючы «вечнага вандроўніка» на пошукі вялікай мастацкай праўды аб беларускім народзе, яго слаўным мінулым (жывапісны цыкл «Скарыніяна», рукапіс незавершанай паэмы «Трызна мінуўшчыны» і інш.).

Першая сусветная вайна запаволіла, але не спыніла скарыназнаўчай працы беларускіх асветнікаў. У 1915 г. перастае выходзіць «Наша Ніва». Аднак скарынаўская тэма найшла працяг на старонках наступных беларускіх газет — «Гоман», «Вольная Беларусь», што незадоўга перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй выходзілі ў Вільні і Мінску. «Вольная Беларусь» 8 жніўня 1917 г. выйшла з буйным, праз усю першую паласу загалоўкам: «400-лецце беларускага друку. 1517—1917». Юбілейная дата разглядалася як вялікае народнае свята ў гонар пачынальніка — Скарыны, чыё творчае падзвіжніцтва азначала «эпоху ў культурным жыцці» народа. У гэтым жа юбілейным выпуску з артыкулам «Доктар Францыск Скарына» выступіў М. Гарэцкі, дзе падаў сціслае змястоўнае апісанне жыцця і творчасці першадрукара, народнага асветніка-гуманіста. Гарэцкі, параўнаўшы лексіку Скарыны з сучаснай беларускай мовай, звярнуў увагу на мноства роднасных слоў, якія «праз чатыры вякі ані каліўца не змяніліся». М. Гарэцкі па сутнасці першым у дакастрычніцкім мова-літаратуразнаўстве паставіў пытанне аб моўнай пераемнасці ў айчынным пісьменстве, якое ў той час недаацэньвалася і ў пэўным сэнсе недаацэньваецца да нашых дзён (Гл.: Садоўскі П. Час одуму. «Полымя», 1986, № 5). У тым самым нумары Р. Зямкевіч разглядзеў значэнне Скарыны для далейшых лёсаў айчыннай культуры, для развіцця беларуска-рускага творчага пабрацімства (Пётр Мсціславец, Лаўрэн Зізаній, Сімяон Полацкі, Гальяш Капіеўскі). «Народ з гэткім мінулым не прападзе»,— падагульвала «юбілейныя» разважанні аб Скарыне «Вольная Беларусь».

Тады ж, у сувязі з юбілеем, выказваліся і практычныя прапановы па ўвекавечанні імя і творчай спадчыны Францішка Скарыны: перавыдаць кнігі першадрукара, узвесці ў Полацку помнік, стварыць Беларускую гістарычную бібліятэку імя Скарыны, дзе сабраць старадрукі, рукапісныя кнігі, старадаўнія акты і г. д. Робіцца спроба па арганізацыі навуковага таварыства імя Ф. Скарыны, аб чым сведчыць і знойдзеная намі ў віленскіх архівах друкаваная «Абвестка» — фірменны знак таварыства; чыняцца крокі па выданні «юбілейнага» «скарынаўскага» календара; выказваецца ідэя аб падрыхтоўцы біяграфічнага слоўніка дзеячаў беларускай культуры, першую старонку якога адкрывала б прозвішча слыннага Палачаніна (ЦНБ АН ЛітССР, аддзел рукапісаў, ф. 21-843, л. 1).

ТВОРЧАЯ РЭКАНСТРУКЦЫЯ нацыянальнай гісторыі, культурнай спадчыны, праведзеная «Нашай Нівай», дэмакратычнай публіцыстыкай, аказала станоўчы ўплыў на абуджэнне гістарычнай памяці, усяе нацыянальнай свядомасці народа. Дасюль безасабовы «тутэйшы» беларус, жыхар «забранага краю» пачынаў паволі пазнаваць сябе самога, угледацца ў сваё сапраўднае аблічча, замаляванае і запэцканае тэндэнцыйна-каланіялісцкімі фарбамі буржуазнай літаратуры. Гістарычная свядомасць побач з іншымі сацыяльна-палітычнымі і эстэтычнымі чыннікамі насычала творчую атмасферу маладой беларускай літаратуры, спрыяла варункам, «экалогіі» яе самаразвіцця. Яна, свядомасць, адначасна азначала пэўную ўмоўную мяжу, што дзяліла і злучала — у літаратурна-творчым сэнсе — Старую Беларусь і Беларусь Маладую. Яднала ўсе тры часова-гістарычныя вымярэнні — мінулае, сучаснае, будучае ў адно суцэльна-дынамічнае, вечна рухомае дзеянне народа, як неад'емную перадумову яго паў-

**ПОШУКІ ЗНАХОДКІ**

# ПАШТОЎКА ЗАДАЕ ПЫТАННІ

«Белая вежа» — адна з найбольш вядомых славутасцяў Беларусі, помнік старажытнай беларускай архітэктуры. Пабудаваная ў 1271—1289 гадах у Камянцы архітэктарам Алексам, яна ўяўляе сабой пяціяруснае збудаванне вышынёй амаль 30 метраў. Пяць ярусаў-паверхаў, агульная плошча якіх 300 квадратных метраў, злучаны паміж сабой унутранай лесвіцай. Знешні выгляд вежы просты і лаканічны. Яна завяршаецца баявой пляцоўкай, акружанай 14 зубцамі з вузкімі глядзельнымі шчылінамі. Размешчанае на насыпным узгорку, гэтае маналітнае збудаванне выклікае моцнае ўражанне.

«Белая вежа» даволі часта адлюстроўваецца на паштоўках. Але асабліва цікавая — першая з іх, якая з'явілася ў пачатку 1910-х гадоў. У верхняй частцы яе ў авале змешчана выява вежы, а ўнізе змешчаны тэкст: «Гістарычны помнік Гродзенскай губ. XII ст. Белая Камянецкая Вежа «столп камен. высотою 17 саженей, падобен удивлению всем зрящим нан» (Іпат. лет. 1275-6 г.), пабудаваная валынскім князем Уладзімірам Васількавічам для абароны заснаванага ім г. Камянца ад нашэсця яцвягаў. Ніз вежы адрамантаваны».

Да гэтага надпісу трэба зрабіць некалькі ўдакладненняў. Па-першае, вежа-помнік XIII стагоддзя, а не XII. Па-другое, па тагачасным адміністрацыйным дзяленні Камянец адносіўся да Гродзенскай губерні. Але самае галоўнае ў іншым. У ніжняй частцы паштоўкі ёсць надпіс: «Изд. Кружка научного изучения Гродненской губернии при С.- Петербургском университете». Што гэта за гурток? Калі ён існаваў і што рабіў для прапаганды мінуўшчыны краю?

Вядома, што ў дарэвалюцыйныя гады ў Пецярбурзе існавалі дзве беларускія арганізацыі — «Беларускі літаратурна-навуковы гурток студэнтаў С.-Пецярбургскага універсітэта» і «Таварыства студэнтаў-беларусаў». Ні ў даведачных выданнях, ні ў спецыяльнай літаратуры «гродзенцы» не пазначаны. Праўда, удалося некаторую інфармацыю атрымаць з артыкула М. Каспяровіча «Арганізаванае вывучэнне Беларусі ў XIX—пачатку XX стагоддзя», апублікаванага ў часопісе «Полымя» (1928 г., № 2). Мэтай гуртка з'яўлялася вывучэнне гісторыі Гродзенскай губерні па нявыдадзеных матэрыялах і археалагічных раскопках, этнаграфіі і складу насельніцтва, яго мовы і побыту, геалагічнага мінулага, эканомікі і статыстыкі. Як бачна з усяго гэтага, арганізацыя была краязнаўчай у шырокім сэнсе слова. Мяркуючы па паштовым гашэнні на картачцы (22.XI.1912), гурток існаваў у 1912 годзе. У гэты ж час у Пецярбурзе «Гродзенскім студэнцкім гуртком пры С.- Пецярбургскім універсітэце» выдадзена брашура Ф. Палешчука «Вясковы спадарожнік. Як адкрыць у вёсцы бясплатную бібліятэку-чытальню». Нягледзячы на некаторае




разыходжанне ў назве, гаворка, несумненна, ідзе аб адной і той жа арганізацыі. Але ў «Справаздачы аб стане і дзейнасці С.- Пецярбургскага універсітэта за 1912 год» яна не называецца.

Акрамя ўказанай брашуры і паштоўкі, знайсці штонебудзь аб дзейнасці гуртка мне так і не ўдалося. Няма сумнення, што гаворка ідзе аб фактычна невядомай пакуль беларускай грамадскай арганізацыі. Запрашаю далучыцца да пошуку звестак пра яе.

**А. ПАДЛІПСКІ,**
**краязнаўца.**

г. Віцебск.

# Загадкі з Галубіцы і Латыголіч

У палескай вёсцы Галубіца, што недалёка ад Петрыкава, стаіць на старых могілках паросты даўнінай «чырвоны камень». На гранітнай пліце (выкапняў граніту, дарэчы, паблізу нідзе няма) кірыліцай высечаны словы, некаторыя з іх ужо цяжка прачытаць. Вось гэты надпіс: «Року 1595 месяца июля 12 дня помяни И (магчыма, Ісусе.—**А. Л.**) Андрея Калины ад Ивана Радуты камень». Памеры выробленага прамавугольнага гранітнага каменя — 20x50x90 сантыметраў.



Кім жа мог быць гэты Андрэй Каліна, да якой сям'і мог належаць? Звернемся да гісторыі краю. У 1595 годзе Севярын Налівайка, кіраўнік казацка-сялянскага атрада, займае горад Петрыкаў, адтуль ідзе на Слуцк — магчыма, праз Галубіцу. Захавальніца вясковых паданняў Галубіцы Ганна Міхайлаўна Картынік (1907 года нараджэння) апавядае: «Каля гэтых могілак, у нізіне — Ляхава лаза, так называецца месца. Тут за вякі была вялікая сутычка. Біліся з ляхамі. Стаяла многа паламаных вазоў, ляжалі сотні забітых коней, тысячамі зарэзаныя людзі. Усе равы былі заліты крывёю. Ад яе тут і рос плюшнік, рагожа...» Можа, у гэтай бітве і загінуў Андрэй Каліна? Ці ў іншай? Якога боку меўся трымацца на той час праваслаўны шляхціц? Што ён рабіў сярод людзей свайго павета?

Некаторыя звесткі мы знайшлі ў «Літоўскай метрыцы». Напрыклад, у першай кнізе судовых спраў («Русская историческая библиотека», т. 20) на старонцы 137 чытаем: «Рашэнне зямельнага спору паміж каралеўскімі татарамі Асаем Багдашэвічам і Аідарам Мангутовічам. ...судзілі нас суддзі «слюбныи» Івашка, улан Наўгародскі, і Андрэй з «Кголубич» (Галубіч)». Справа ў том трапіла без даты, аднак складальнікі яго мяркуюць, што згаданы суд адбыўся недзе каля 1516 года. Гэты год ніяк да каменя не стасуецца, але згадка дазваляе думаць, што Галубічы (сённяшняя Галубіца) належалі чалавеку, які займаў немалую па тым часе пасаду — суддзі. Можа, ягоны ўнук і накрыты гранітнай плітой з надпісам. Зараз несумненна адно: надмагільны камень у вёсцы Галубіца з'яўляецца помнікам пісьменнасці XVI стагоддзя.

Галубіцкі лапідарны помнік мае важнае значэнне для навукі. Гэта, як зазначала археолаг Л. Дучыц, бадай, адзіны пакуль вядомы датаваны «камень», адно з нешматлікіх сведчанняў эпіграфікі таго стагоддзя. Галубіцкі помнік адносіцца да важнага перыяду нашай гісторыі — перыяду дзейнасці беларускіх кнігадрукароў Васіля Цяпінскага і Сымона Буднага — паслядоўнікаў Францыска Скарыны.

Камяні на вясковых могілках раней звярталі на сябе малую ўвагу. Не пабольшала яе і сёння. Часта такія камяні знішчаюцца. Выявіць гэтыя помнікі старажытнасці зручней мясцовым краязнаўцам. Будзе шкада, калі такія помнікі мінуўшчыны і старажытнай пісьменнасці напаткае лёс вядомых адзінаццаці барысавых камянёў (XII стагоддзе), з якіх цяпер у нас захаваўся толькі адзін каля вёскі Падкасцельцы за пяць кіламетраў ад Полацка.

Шукаючы ў Літоўскай метрыцы звесткі пра Каліну з Галубіцы, я нечакана натрапіў на невядомыя раней звесткі пра Васіля Цяпінскага. У 33 томе, у «Попису войска литовского», ёсць такая нечаканка: «Менский повет. **Василий Тяпинский з Лотыголич:** конь, пнцр (панцыр), пр. (прыблізна), тар. (тарча-шчыт), др. (дрэўца-кап'ё), саб. (шабля), сам служит пану Остафею Воловичу падканцлерому». І ў іншых месцах 33 тома Метрыкі знаходзім заўвагі пра паслядоўніка скарынаўскай справы В. Цяпінскага, біяграфія якога малавядомая. У артыкуле Г. Я. Галенчанка, што змешчаны ў зборніку «450 год беларускага кнігадрукавання», значацца маёнткі, дробныя спадчынныя ўладанні друкара ў Цяпіне (каля Лепеля), Свірнах (Віленскі павет), Вярсоцкім і Полскаўскім (Лідскі павет). Як высветлілася зараз, жыццё В. Цяпінскага было звязана і з Латыголічамі (цяпер Чашніцкі раён Віцебскай вобласці), адкуль ён, як слуга пана Астафея Валовіча, падканцлера Вялікага княства Літоўскага, маршалка дворнага, старасты Берасцейскага і Кобрынскага, быў запісаны 20 кастрычніка 1567 года ў войска і, магчыма, удзельнічаў у Лівонскай вайне 1558—1583 гадоў. Вядома, што ён 1 чэрвеня таго ж года ўпамінаецца ў метрыках, як малодшы афіцэр. Мяркуюць, што В. Цяпінскі прадаў большую частку сваіх уладанняў і за грошы «з убогае свае маентости» набыў друкарню, з якой у 1580 годзе выйшла ў ягоным перакладзе на беларускую мову «Евангелле». Магчыма, дзеля друкарскай справы прадаў Цяпінскі і Латыголічы.

**А. ЛОЗКА,**
**аспірант ІМЭФ АН БССР.**




з 7 па 13 снежня

7 снежня, 19.50

**«ПРАЧЫТАЙЦЕ МАЁ ПІСЬМО...»**

Агляд пошты за тыдзень.

7 снежня, 23.05

**І УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫЧНЫХ ТЭАТРАЎ**

Дыскусійная зала.

8 снежня, 19.10

**«НА ЎВЕСЬ ГОЛАС»**

Фрагмент новай праграмы Дзяржаўнага беларускага эстраднага ансамбля «Песняры».

8 снежня, 19.50

**КАНЦЭРТ ВІЛЬНЮСКАГА СТРУННАГА КВАРТЭТА**

Прагучаць творы Шумана, Чурлёніса, Бакерыні, Гайдна.

9 снежня, 19.00

**І УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫЧНЫХ ТЭАТРАЎ**

Вечар аднаактовых балетаў. Пастаноўка Ленінградскага Малога тэатра оперы і балета.

9 снежня, 20.00

**ЗАПРАШАЕ ЧАСОПІС «БЕЛАРУСЬ»**

Галоўны рэдактар А. Шабалін пазнаёміць са снежаньскім нумарам. У перадачы прымае ўдзел мастак, член праўлення Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры Я. Сахута.

10 снежня, 22.00

**М. ЖОРНА. «КАТАМАРАН ІДЭЙ»**

Прэм'ера спектакля Беларускага тэлебачання.

11 снежня, 19.00

**І УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫЧНЫХ ТЭАТРАЎ**

У. Кабекін. «Прарок». Спектакль Свярдлоўскага акадэмічнага тэатра оперы і балета імя А. В. Луначарскага.

11 снежня, 23.40

**І УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫЧНЫХ ТЭАТРАЎ**

Дыскусійная зала.

12 снежня, 13.05

**«СЛОВА—ПАЭЗІІ»**

Новыя вершы А. Емяльянава.

12 снежня, 16.35

**«НАШЫ ГОСЦІ»**

Іграе ансамбль старадаўняй музыкі ДАВТа СССР. У праграме творы Пёрсела і Скарлаці.

12 снежня, 17.40

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС «ДЗВІНА»**

Вы пабываеце на абласным свяце паэзіі і на выстаўцы віцебскіх фотамастакоў. У выкананні У. Карпенкі (кларнет) пачуеце творы Вагнера, пазнаёміцеся з вершамі ветэрана вайны Н. Давыдзенкі, убачыце кветкі віцебскага клуба кветкаводаў. На заканчэнне спявае Л. Навіцкая.

12 снежня, 19.00

**І УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫЧНЫХ ТЭАТРАЎ**

В. Губарэнка. «Вій». Спектакль Адэскага акадэмічнага тэатра оперы і балета.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 02370

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Анатоль ВЯРЦІНСКІ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Уладзімір ГІЛЕП, Мікола ГІЛЬ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Рычард СМОЛЬСКІ, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Андрэй ГАНЧАРОЎ.